КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 38 (300) 27 верасня — 3 кастрычніка 1997 г. КОШТ 3500 р.

СПЕЦВЫПУСК






Узноўлены Крыж прападобнай Еўфра-сінні Полацкай у суботу 27 верасня ўсталяваны на месцы, дзе ён знаходзіўся некалькі стагоддзяў і сімвалізаваў любоў Заступніцы Беларусі да свайго народа.

Пра гэтую падзею напярэдадні ад'езду ў Полацк нашаму карэспандэнту расказаў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт.

— У пятніцу і суботу — свята Узвіжання Крыжа. У Спаса-Еўфрасіннеўскім Полацкім жаночым манастыры — прастольнае свята, бо там знаходзіцца Крыжаўзвіжанскі сабор. І да гэтага вялікага свята мы прымеркавалі прынясенне ў манастыр Крыжа прападобнай Еўфрасінні Полацкай, узноўленага па вобразу і падабенству Крыжа, створанага майстрам Лазарам Богшам. Гэта было ў 1161 годзе, сёння — год 1997-мы. Пяць гадоў мастак-ювелір з Брэста працаваў над тым, каб узнавіць святыню.

24 верасня адбылося пасяджэнне Вучонага Савета, у склад якога ўваходзілі прадстаўнікі Экзархата, Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", дзяржаўныя чыны, прадстаўнікі навуковай і творчай грамадскасці. Гэта пасяджэнне было і працягам і завяршэннем дыскусіі пра ўзноўлены Крыж. Аднадушна і аднагалосна члены Савета ацанілі працу мастака як высакаякасную. Крыж пры жыцці Еўфрасінні Полацкай ствараўся з надзеяй на тое, што ён прынясе прымҮрэнне княскҮм родам, якҮя супернҮчалҮҮ варагавалі. Гэтую місію Крыж выконваў на працягу ўсяго свайго быцця ў Полацку.

Так і мы верым, што святыня ўзноўлена з надзеяй на тое, што яна і сучасным пакаленням хрысціян Белай Русі прынясе згоду і духоўнае адраджэнне.

Мы гаворым аб духоўным адраджэнні, часта не задумваючыся, у чым яно па-сапраўднаму заключаецца. А яно — у тым, каб мы ўсвядомілі: усе мы хрышчоныя і ўсім нам надзеты крыж у святой купелі не для таго, каб упрыгожыць наша цела, а каб азнаменаваць, што гэты чалавек — хрысціянін і ён узбройваецца Крыжам Хрыстовым на барацьбу са злом, з грахом.

І вось калі мы зразумеем, што наш хрысціянскі доўг заключаецца ў гэтым і мы павінны гэты Крыж Хрыста — ужо духоўны, жыццёвы — годна пранесці праз усё сваё зямное вандраванне, тады і здзейсніцца наша духоўнае адраджэнне...

А пакуль мы займаемся прыгожымі словамі і рытарычнымі ўпрыгожваннямі, не будзе рэальнага адраджэння. Вось з такімі думкамі царква і прымала ўдзел у гэтым працэсе ўзнаўлення Крыжа Еўфрасінні Полацкай. І я веру, што спадзяванні нашы не марныя, бо калі мы выносілі Крыж гэты і ў Брэсце і ў Мінску народу, мы адчувалі ўзрушэнне людзей.

Народ Крыж прыняў і ўжо ўсвядоміў, што гэта — Святыня, якая дапаможа нам набыць упэўненасць і раўнавагу ў жыцці.

# НАРОД КРЫЖ ПРЫНЯЎ

***да: быць то месцам абароны, то наступлення, то перамоў.***

***Для Заходняй Еўропы такім месцам можа быць і разбураная Берлінская сцяна, а для нас — Брэст. Тут пачынаўся шлях у Еўропу. І Холмскія вароты Брэсцкай крэпасці, якія даўно сталі тэлесімвалам горада, успрымаюцца як калідор, праход у вялікі свет. Брэст — горад на скразняку, транзітны горад, горад-мытня, дзверцы якой расчыняюцца то туды, то сюды. Патокі машын кожны дзень імчацца па розныя бакі адной магістралі. Адтуль Брэст — вароты то ў СССР, то ў СНД, то ў братні саюз дзяржаў. У далячынь неахопную. Адсюль — у такую ж невымяральную геапалітычную і культурную прастору.***

***На перакрыжаванні людных гандлёвых дарог раней наладжвалі кірмашы. Цяпер у свабоднай эканамічнай зоне — гандлі тэатральныя, міжнародны фестываль "Белая Вежа". Ён яшчэ не мае сваёй гісторыі і праводзіцца ў другі раз. Гэта новая культурная ініцыятыва, загадваць-прадказваць лёс якой наўрад ці хто возьмецца. У адрозненне ад Гомеля, які раз на год зазывае да сябе на свята тэатральных славян, Брэст заглядвае далей на захад і збіраецца запрашаць на свае святы трупы з далёкага замежжа. З гэтых "адрозных намераў", канечне, павінна яшчэ з гадамі выспець творчая канцэпцыя фестывалю. Пакуль па маладосці гадоў "Белая Вежа" толькі прыцягвае надзеямі і толькі можа прымаць пажаданні і парады на будучыню. Цяперашні фестываль уяўляецца як тэатральнае свята, у першую чаргу міжнароднае. Таму як наказ яму будзе да месца прывесці разважанні А.С.-Грыбаедава, якімі падзяліўся ён з чытачамі "Вестника Европы" ў лісце з Брэст-Літоўска: "Ёсць святы, якія на другі ж дзень забываюцца таму, што робяцца без мэты, ці мэта іх пустая. У сталіцах відаць бляск, у гарадах "палубаярскія" забавы, але свята, у якім удзельнічае сэрца і якое ўпрыгожвалі б прыязнасць, мецэнацтва і іншыя духоўныя асалоды, — такое свята пакідае пасля сябе доўгі ўспамін".***

***Уладзімір МАЛЬЦАЎ***

# БОГША XX СТАГОДДЗЯ

зіновічам. Мы разглядалі кнігу "Еўфрасіння Полацкая". Тады я мала што ведаў пра Крыж. Ведаў, што ён існаваў і што падчас вайны знік... Магчыма, менавіта тады штосьці закранула маю душу... Потым мне патэлефанаваў тагачасны кіраўнік аб'яднання "Бацькаўшчына" Яўген Лецка і папрасіў мяне прыехаць у Дом літаратара. Там сабраліся навукоўцы Георгій Штыхаў, Уладзімір Конан, іншыя... Штыхаў даў мне чорна-белы негатыў з малюнкам Крыжа, занатаваным у XVI стагоддзі, і кнігу доктара гістарычных навук Леаніда Аляксеева, прысвечаную Еўфрасінні. Потым Аляксееў перадаў мне фатаграфію бакавых выяваў Крыжа і каляровы малюнак Бацюшкава. Праўда, там вонкавы бок цяжкавата праглядваўся... Карацей, схема — не больш... Паводле гэтага малюнка я і зрабіў першы эскізік, старанна яго размаляваў. Прыйшоў да Уладыкі Філарэта па благаславенне. Не ведаю, ці паверыў ён тады, што я здолею аднавіць святы Крыж... Але —благаславіў...

**— А самі вы верылі?**

— Безумоўна. Сумненняў не было, хаця і давялося вынесці шмат цяжкасцяў...

**— Мабыць, шукаючы неабходныя каштоўныя і іншыя матэрыялы?**

— Не, пра гэта не думаў. Тут праблем не павінна было быць. Я больш хваляваўся, як выкарыстаць гэтыя матэрыялы. Аднак іх мне далі не адразу, і ў гэтым мне пашчасціла...

**— Што гэта значыць?**

— Інакш мне было б складаней. Я б пачаў мітусіцца, жадаючы як мага хутчэй "увайсці" ў матэрыял, не прапрацаваўшы яго папярэдне і не адчуўшы яго-най душы.

Трэба было прайсці ўсе прамежкавыя стадыі, пачынаючы ад эскіза і кардону. Не кажу ўжо пра тое, што мы, ювеліры, у прынцыпе былі не падрыхтаваны працаваць з такімі матэрыяламі. Ювелірных дынастый у нас няма. А калі хтосьці і працаваў у гэтай галіне, дык існаваў "пад знакам" крымінальнага кодэксу: а дзе ўзяў золата, мельхіёр, смарагд? А згодна з якой інструкцыяй працаваў? Дзе ўлік, дзе "вытворчыя" рэшткі?

**— Але ж нейкая экспертная камісія, мабыць, рэгулявала тваю працу?**

— На шчасце, не. Мне вельмі дапамог Уладыка Філарэт і кансультанты, дактары гістарычных навук Таццяна Макарава і Леанід Аляксееў, вялікія знаўцы гэтай справы. Дарэчы, Таццяна Іванаўна — аўтар вялікага даследавання па перагародчатай эмалі ў Старажытнай Русі, а Леанід Васілевіч — шмат займаўся творчасцю Лазара Богшы... З іхняй дапамогай я вывучаў архіўныя матэрыялы, рукапісы, фатаграфіі, музейныя фонды, у тым ліку Збройнай палаты. Божа мой, мы ж нават уяўлення не мелі пра тую старажытную тэхналогію перагародчатай эмалі, пра тую чаканку, пра тыя обжыгі, прыпоі, шліфоўку і да т.п. Даводзілася ўсё гэта спасцігаць, як кажуць, з нуля.

Так, там была школа, адпрацаваная стагоддзямі. У нас — усё даўно страчана.

**— Як вы трапілі ў Іерусалім і якой была мэта гэтай паездкі?**

— З благаславення Уладыкі Філарэта я і зацікаўленыя асобы трапілі ў святыя месцы. Мэта? Прыкласціся да Труны Гасподняй і асвяціць кіпарысавае дрэўца, з якога павінен быў быць створаны Крыж.

**— І якое ўражанне ад гэтага падарожжа?**

— Словамі цяжка пераказаць. Іерусалім — гэта велізарны помнік Богу, створаны на працягу стагоддзяў. Мяне ўразіла літаральна ўсё: пачынаючы ад візантыйскіх мазаік і заканчваючы цудоўнай разьбой па камені, мармуры і граніце, ад шэдэўраў архітэктуры да горных манастыроў. Мы прайшлі па шляху Еўфрасінні Полацкай, затрымаліся ля месца, дзе яна была пахавана: тут нам манахі далі кожнаму па крыжыку з мошчамі Феадосія Вялікага. Мы слухалі, як натхнёна Уладыка вёў богаслужэнне. Мы прайшлі таксама па шляху Хрыста, наведалі ў Іерусаліме ўсе месцы, звязаныя з Сынам Чалавечым. А на гары Спакусы я ледзьве не памёр...

**— У якім сэнсе?**

— У непасрэдным. Напэўна, ад невыноснай спякоты атрымаў сонечны ўдар. Праляжаў на старажытнай паліраванай пліце амаль дзве гадзіны. Святыя сказалі: гэта рукі д'ябла! Можа, і так...

**— Я так разумею, што вы ў працэсе працы над Крыжам набылі беспрэцэдэнтны вопыт: і як мастак, і як тэхнолаг-вынаходнік, і як майстар-эмальер, і як каваль... Хто дапамагаў вам у працы?**

— Безумоўна, аднаму такую рэч зрабіць было б складана. Мне дапамаглі два вучні, так бы мовіць, памочнікі — Віталь Якарук і Андрэй Малых. Строга кажучы, і Лазар Богша працаваў не адзін, у яго былі вучні...

**— Вы працавалі паводле тэхналогіі XII стагоддзя?**

— Безумоўна, хаця і з іншымі матэрыяламі. Ну, натуральна, скарыстаўшы некаторыя сучасныя тэхналагічныя працэсы: скажам, у XII стагоддзі метал не пракатвалі...

**— Мікалай Пятровіч, а калі б раптам знайшоўся згублены Крыж Еўфрасінні Полацкай?**

— Гэта было б шчасцем. Цудам! Але я разумею вашае пытанне... Справа ў тым, што наш Крыж створаны не паводле вобраза і падабенства. Гэта не копія, не шаблон, не муляж. Гэта — аўтарскі твор. Цалкам новы твор, зроблены нашымі сучаснікамі. Таму, сапраўднаму Крыжу ў 20-я гады рэвалюцыйнымі атэістамі была нанесена непапраўная шкода: вынулі камяні, партрэты, выявы рук, ног, выкінулі мошчы... Хто ў стане гэта сёння адрэстаўраваць? Карацей, святыню проста абрабавалі... І сёння яна б уяўляла сабою толькі гістарычную рэліквію, нават калі б яе і асвяцілі...

**— Дзе закладвалі мошчы?**

— У Брэсце. У Свята-Сімяонаўскім саборы Уладыка Філарэт улетку паводле Асаблівага Чыну здзейсніў гэтае свяшчэннае дзеянне...

**— У народзе ўжо кажуць, што вяртанне Беларусі свайго Крыжа дапаможа духоўнаму адраджэнню беларускай нацыі і пакажа краіне шлях да дабрабыту.**

— Хацелася б у гэта верыць.

**З мастаком-ювелірам гутарыў Барыс КРЭПАК**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ...ЗРОБЛЕНА Ў БРЭСЦЕ 1563 ГОДА, МЕСЯЦА ВЕРАСНЯ ЧАЦВЁРТАГА ДНЯ...

Чалавечы век кароткі, але сярод сродкаў захаваць сваё імя на вякі ёсць адно, бадай, самае простае: мецэнацтва.

Мікалай Радзівіл Чорны, князь Рымскай імперыі на Алыцы і Нясвіжы, канцлер вялікі літоўскі, ваявода віленскі і староста брэсцкі, застаўся ў гісторыі культуры не толькі як адзін з нашчадкаў вялікага і магутнага роду, які часам пагражаў нават кароне Рэчы Паспалітай.

Не толькі як дыпламат і палітык, блізкі да трона і адзін час крэўна блізкі, калі яго стрыечная сястра Барбара стала жонкай страсна закаханага ў яе каралевіча, а потым і караля Жыгімонта Аўгуста.



Мікалай Радзівіл Чорны.

І хаця нам вядомыя і ўжо ў творах сучаснай літаратуры ўвасобленыя і паўтораныя хвіліны, калі ён стаяў за спінай каралевіча ў віленскай капліцы пры патаемным вянчанні, калі ехаў у Рым па спецыяльны дазвол папы на каранаванне ненавіснай для каралевы Боны нявесткі, і чытачы даведаліся пра многае з таго, што складае бурлівы чалавечы, мужчынскі лёс, — аднак самае галоўнае, як высветлілася, не гэта.

Тое, што пры ім Нясвіж стаў цэнтрам кальвінізму ў Вялікім княстве Літоўскім, што, зразумела, выклікала незадаволенне каралеўскай улады, а таксама ўлады царкоўнай, таксама не самае галоўнае. У рэшце рэшт, гэтыя спробы перавесці на мясцовы грунт свабодалюбныя ідэі еўрапейскіх рэфарматараў, надаць богаслужэнню больш жывы і просты характар, пабольшаўшы асабістую адказнасць кожнага чалавека перад Богам без пасрэдніцтва царквы, даўшы на кароткі час росквіт, непазбежна павінны былі звянуць, як асеннія кветкі на марозе. Выкліканыя да жыцця грашыма і жаданнем магнатаў ВКЛ пазбавіцца ад уплыву каталіцтва, якое падтрымлівала ідэю адзінай дзяржавы і такім чынам садзейнічала згасанню ролі Вялікага княства, яны, гэтыя ідэі, не знайшлі тут свайго Томаса Мюнцэра, які павёў бы за сабой народныя масы альбо, у лепшым выпадку, дробную шляхту. Варта было сыну таго ж Мікалая Радзівіла Чорнага — Мікалаю Кшыштафу Сіротку захапіцца пышнасцю і веліччу каталіцызму, пабываўшы ў Рыме і зрабіўшы падарожжа па святых месцах, як ён разбурыў усё, зробленае бацькам, ды так заўзята, што і кальвінісцкія прапаведнікі, і найбольш шчырыя прыхаджане, і друкары — усе яны павінны былі ратавацца, як пры раптоўнай паводцы. Што ж тычыць сялянства, то яно, хутчэй за ўсё, так і не спасцігла, што ж такое ёсць само паняцце "антытрынітарыі" і чаму богаслужэнне праводзіцца ў простых, амаль аскетычных умовах. Бадай што, гэта якраз настройвала яго супраць "простай" царквы: калі ўжо жыццё падобнае да быдлячага, то хай хаця б царква будзе нагадваць пра жыццё нябеснае, дзе ўздасца за ўсе крыўды.

Як аказалася, галоўнай справай жыцця Мікалая Радзівіла Чорнага стала стварэнне Брэсцкай друкарні і фінансаванне яе выданняў, перадусім жа — выданне Бібліі на польскай мове ў 1563 годзе. Вядомая ў гісторыі культуры як Брэсцкая Біблія, яна носіць яшчэ імя яе фундатара і называецца часта таксама Радзівілаўскай.

...Дзесяць гадоў таму падчас тэлеперадачы "Спадчына" мне давялося патрымаць у руках экземпляр адной з іх, хаця і няпоўны. Мы вялі тэлевізійны запіс у аддзеле старадрукаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа Акадэміі навук Беларусі, і сярод іншых найкаштоўных кніг, што захоўваюцца там, была і гэтая, Радзівілаўская. Калі я трымала ў руках гэты пашкоджаны часам, абставінамі, але ж амаль цэлы том, упершыню звярнула ўвагу на тое, што ён — як бы цёплы, нібы і сапраўды нейкім, яшчэ невядомым для навукі чынам захавалася ў ім натхненне тых, хто працаваў над кнігай, хто перакладаў знешне просты, але найскладанейшы на зямлі тэкст Святога пісання, часам пакутліва раздумваючы над кожным словам, хто рабіў гравюры (а яны, як гавораць спецыялісты, дужа падобныя па стылі да скарынаўскіх), хто, урэшце, друкаваў на першых у Еўропе друкарскіх станках аркуш за аркушам тэкст і аздабленне.

А можа, у ёй захавалася і цяпло тых, хто чытаў гэтыя аркушы — дзень за днём, год за годам, перадаючы Святую кнігу з пакалення ў пакаленне?

Мікалай Радзівіл Чорны загадаў першыя старонкі аддаць пад панегірычны аркуш, прысвячэнне каралю Жыгімонту Аўгусту. Дванаццаць гадоў ужо як памерла ў страшных пакутах радзівілава сястра, каралева Барбара, як памерла і тая, хто, згодна з легендамі, атруціла яе — каралева Бона. Але кароль быў літасцівы да свайго былога сваяка, і той усё яшчэ меў уплыў на дзяржаўныя справы, хаця, мабыць, да канца сваіх дзён не пераставаў марыць аб самастойнасці Вялікага княства і аб тым, што найлепшым уладаром яго мог бы стаць ён — адзін з самых адукаваных людзей свайго часу, уладалюбны і адораны халодным, цвярозым розумам сапраўднага кіроўцы дзяржавы. Асабліва назіраюы за тым, як рабіў гэта Жыгімонт Аўгуст, які да таго часу зноў быў жанаты — і зноў нешчасліва, бо так і сышоў у небыццё, не пакінуўшы пасля сябе нашчадкаў, не стаўшы абаронцам Вялікага княства, як абяцаў у маладосці, а, наадварот, сваім слабаволлем садзейнічаючы ягонаму палітычнаму заняпаду.

Наступныя пакаленні, мабыць, ужо і не чыталі гэтае прысвячэнне: каго цікавяць лісліваыя ўхваленні ўладыкаў? Яны паўтараюцца з пакалення ў пакаленне — ад першых вядомых у гісторыі царстваў да сённяшніх нібыта дэмакратычных краінаў. Але тое, што вечнае, — яно застаецца.

Засталася і ўвайшла ў жыццё нашага пакалення, як, верыцца, увойдзе і ў жыццё наступных надрукаваная ў друкарні пад кіраўніцтвам Цыпрыяна Базыліка, пры ўдзеле Гжэгажа Оршака, Пятра Статорыуса, Яна Тэнаўдуса, Ежы Шомана, Якуба Любельчыка "Біблія святая, гэта значыць Кніга Старога і Новага запавету з яўрэйскай, грэчаскай і лацінскай нанава на польскую мову стараннасцю дакладна перакладзеная".

Яе чыталі беларусы-католікі, беларусы-уніяты. І яна — частка нашай культуры — лацінамоўнай, польскамоўнай, яўрэйскамоўнай і да т.п. А яшчэ таму яна наша, што была народжана ў Бярэсці — першым горадзе, што атрымаў магдэбургскае права, усмактаў заходнееўрапейскія ўплывы і застаўся дарагім для нашчадкаў не толькі з прычын гераізму ў апошняй вайне...

Але і таму, што даў ім — Кнігу...

**Вольга ІПАТАВА**

№ 38 27 верасня — 3 кастрычніка 1997.



# ЛАД ЖЫЦЦЯ АД "НЕРУШ"

***"Дзе ты працуеш?" — спыталіся землякі ў Валянціны Гладкай, мастацкага кіраўніка фальклорна-этнаграфічнага ансамбля "Неруш". "У ансамблі кіраўніком", — адказала яна. "А што вы там робіце?" — цікавіліся далей аднавяскоўцы. "Песні спяваем", — быў адказ. "Дык а працуеш ты дзе?"***

***Пачалося ўсё з захаплення беларускай песняй, а перарасло ў "Неруш", калектыў, які вось ужо 17 гадоў дорыць нам радасць сустрэчы з жывым беларускім фальклорам. За паспяховыя выступленні ў Беларусі і за яе межамі "Неруш" адзначаны ганаровым званнем народнага ансамбля. Ад самага пачатку кіруе ім Валянціна Фёдараўна Гладкая, якая расказала, што ідэя стварэння калектыву ўзнікла на механіка-матэматычным факультэце БДУ. Тады яна вучылася ў Мінскім інстытуце культуры. З таго часу і да сёння для Валянціны Фёдараўны "Неруш" застаецца справай жыцця, самім жыццём.***



**— Валянціна Фёдараўна, дзякуючы каму ў ансамбля такая прыгожая і ёмкая назва?**

— У маім жыцці ёсць чалавек, вельмі дарагі і блізкі, які заўсёды падтрымлівае і дапамаге ў цяжкія для мяне хвіліны, — гэта Інга Іванаўна Лужчыцкая. І назву гэтую яна прапанавала.

**— Відаць, нялёгка быць кіраўніком такога ансамбля?**

— На працягу ўсяго нашага шляху цяжкасцей розных хапала. Алё неяк "упрэшся", збярэш сілы і пераадольваеш іх. Дапамагае перакананне, што пасля ямы заўсёды ідзе нейкае ўзвышша. Мне вельмі пашанцавала з людзьмі, людзі тут добрыя, годныя прадстаўнікі сваёй нацыі. Мы аднадумцы і нам хораша рабіць адну справу.

Ёсць меркаванне, што праз пэўны прамежак часу ў любым калектыве пачынаюць узнікаць унутраныя канфлікты. Канечне, у нас яны былі таксама. Але, мусіць, народныя традыцыі, фальклор мацнейшыя за розныя звадкі і сваркі. Я думаю, што нас трымае высокае. Ёсць людзі, якія ў калектыве шмат гадоў ці нават ад самага пачатку, як Марына Пугачоўская.

**— Давайце пафантазіруем і ўявім сітуацыю, што "Неруш" развалiўся, знік...**

— Мне здаецца, што гэта немагчыма. Тое, што мы робім, сядзіць глыбока ўнутры людзей, ува мне.

Восенню мінулага года мы выступалі ў Клічаве. Там была няўдаленькая сцэна, і мы так растанцаваліся, што разламалі яе. Пападалі з вышыні каля 1,5 метра. Адна наша дзяўчына пашкодзіла нагу, не моцна, але мы аднеслі яе на руках у аўтобус. А самі "пайшлі ў людзі" — танцавалі ў зале сярод гледачоў. Пасля выступлення прыбягаю ў аўтобус і бачу, што мая дзяўчынка плача. Я да яе: "Светачка, чаго ты плачаш? Ножка баліць?" "Не, — кажа, — мне шкада, што канцэрт без мяне быў".

Гэты выпадак пераканаў мяне, што "Неруш" будзе існаваць яшчэ доўгі час.

Ніхто так не ведае чалавека, як людзі, з якімі ён робіць адну справу. Удзельнікі ансамбля вельмі ахвотна расказвалі пра свайго мастацкага кіраўніка. І хоць галасоў было шмат, аповед атрымаўся адзін: "У яе ёсць нейкі сакрэт, які я за 10 гадоў у калектыве не здолеў разгадаць, я не ведаю, чым яна мяне трымае.

Усё пачыналася, відаць, як ком з гары. Але свой ком мы цягнулі ўсё ж на гару. Валянціна Фёдараўна аб'яднала вакол сябе некалькі аднадумцаў, не столькі па музычных і харэаграфічных здольнасцях, як па чалавечых якасцях. У калектыве заўсёды панавалі сяброўскія адносіны і атмасфера свабоды, раскрыцця талентаў, раскрыцця душ, і проста хацелася жыць у калектыве, менавіта жыць, а не іграць. Валянціна Фёдараўна дае кожнаму чалавеку развівацца так, як ён хоча ў гэтым калектыве, кожны захоўвае сваю аўтэнтычнасць, уносіць нейкую жывую фарбу.

Усё ў нашым калектыве замешана на духоўнасці, на нейкім раскрытым розуме. Яна бачыць тое, што ёсць, а не тое, што бачаць іншыя. На практыцы гэта выліваецца ў выдатныя вынікі нашай працы.

Валянціна Фёдараўна прафесіянал у сваёй галіне, прафесіянал вышэйшага класа. Стварыла такі калектыў: арыгінальны, адзіны ў рэспубліцы, які сумяшчае музыку, спевы, танцы, тэатр, жарты. Акрамя гэтага, яна вельмі таленавітая спявачка і магла б зрабіць цудоўную кар'еру як салістка, але поўнасцю аддала сябе ансамблю. Яна лічыць нас сваімі дзецьмі. "Неруш" — гэта вялікая сям'я. "Неруш" — гэта лад жыцця".

**Міхась БАШУРА**
**Фота Віктара ЖЫЛІНА**

# КАБ СПАТОЛІЦЬ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ГОЛАД

З'явіўся першы нумар новай газеты "Кніжны свет". Гэта яшчэ адно выданне для аматараў кніг. Сёння на Беларусі замала газет, якія б асвятлялі кніжную тэматыку, — апрача "Кніга і мы", "Сучаснага слова", бадай, нічога і няма. Таму зусім натуральным выглядае тое, што заснавальнікамі "Кніжнага свету" выступілі Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў і ТАА "Завігар". Бо каму, як не ім — выдаўцам і распаўсюджвальнікам, — найперш неабходна мець аператыўную інфармацыю пра кніжны рынак?

У новай газеце можна адшукаць самыя розныя матэрыялы: аб кніжных кірмашах, аб новых кнігах, даведацца пра кошты на паперу і паліграфічныя паслугі і шмат пра што іншае. Адным словам, выданне прыйшло да чытача своечасова, бо патрэбу ў ім адчувалі многія.

**З.В.**

# "У ПРИРОДЫ НЕТ ПЛОХОЙ ПОГОДЫ..."

Толькі паэт здольны адчуць і заўважыць усе адценні навакольнага хараства, і не толькі заўважыць, але і данесці гэта да нас у сваіх творах. Мы ж не заўважаем, на жаль, даволі часта прыгажосці вакол нас, не звяртаем увагі на апісанне прыроды і ў кнігах. А пра тое, што ёсць на што паглядзець, пра багацце пейзажных тэм, вобразаў і матываў на 136 старонках сваёй новай кнігі "Жывая мова краявідаў" сцвярджае Алесь Бельскі. Упершыню пейзаж у беларускай паэзіі выбраны ў якасці асобнага і сістэмнага даследавання. Прасочваецца гістарычны генезіс і робіцца спроба класіфікацыі розных тыпаў пейзажу, выяўляюцца яго асноўныя рысы і асаблівасці, паэтычнае адлюстраванне прыроды суадносіцца з паэтыкай пейзажу ў жывапісе і музыцы. Аўтарам разгледжана болей 10 тысяч твораў звыш 150 паэтаў.

Што такое пейзаж, бадай, ведае кожны вучань. А ці ведаем мы? Алесь Бельскі прапануе пераканацца ў гэтым нам самім. Тое, што мы не ведаем усёй шматграннасці пейзажнай лірыкі, — адназначна.

**М.Б.**

### УДАКЛАДНЕННЕ

У папярэднім нумары па тэхнічных прычынах загаловак матэрыялу на стар. 12 быў пададзены няправільна. Падаем дакладны загаловак: "Не глядзіце мутным вокам на памыйку, лепш зайдзіце да Юзіка".

# ПАМЯЦІ МАЙСТРА




24 верасня на доме № 42 па вуліцы Сурганава ва ўрачыстай атмасферы была адкрыта мемарыяльная дошка з барэльефам у памяць народнага мастака БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі краіны, Віталя Канстанцінавіча Цвірко. Гэты выдатны майстар пейзажнага жывапісу жыў у гэтым доме з 1976 па 1993 год.

Пра жыццё і творчасць мастака, педагога, грамадскага дзеяча гаварылі начальнік Упраўлення культуры Мінгарвыканкама Віктар Кураш, намеснік старшыні Беларускага Саюза мастакоў Георгій Лойка, народны мастак Беларусі, прафесар Віктар Грамыка, намеснік міністра культуры Беларусі Валерый Гедройц, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, мастацтвазнаўца Барыс Крэпак, дачка мастака Таццяна Цвірко. Да мемарыяльнай дошкі былі ўскладзены кветкі.

Аўтары мемарыяла — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, скульптар Андрэй Заспіцкі і архітэктар Міхаіл Ткачук.

**Наш кар.**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# "КАЛІ-ЮГУ" МОЖНА ПАДАВАЦЬ З РАМОНКАМІ

Другі беларускі фестываль блюз-рока пакінуў пасля сябе розныя ўражанні. Моладзь на канцэрт прыйшла, бо ўвесь Менск, літаральна, свяціўся афішамі — зацікавілася. Хтосьці з наведнікаў на фэсце кінуў: "Некалькі канцэртаў, сярод якіх сустракаюцца і абвугленыя!" І гэты невядомы ў нечым меў рацыю, бо фестываль упіхнулі ў рамкі аднаго дня — канцэрт працягам сем з паловай гадзін пакрэмзалі антрактамі. Ды і стракатасць прафесійнага ўзроўню кідалася ў вочы нават дылетанту.

Адзін з першых гуртоў "Азонавая дзірка" імкнуўся неяк разварушыць сонную аўдыторыю. Але ўсе ягоныя намаганні нагадвалі канстатацыю клінічнай смерці блюзрока, мабыць таму ў яго нічога і не атрымалася. Кампазіцыі яшчэ больш ахутвалі сонным вэлюмам людзей, і яны шчыра пазяхалі і ўздыхалі. Без сумнення, гэтая музычная каманда мае не благі патэнцыял, але вось над рэпертуарам ім трэба сур'ёзна задумацца.

Пачынаючы з віцебскага "Вакзала" публіка крышачку ажывілася. Некаторыя аматары патанчыць выскачылі да пляцоўкі. Імправізаваныя гудкі цягнікоў прыйшліся большасці гледачоў даспадобы. Публіка нават паспрабавала падыграць музыкам, што выявілася ў незразумелых крыках і жэстах. Ну чым не вакзал?

Многія мае знаёмыя, якія наведалі гэты фестываль, былі адзінадушныя ў тым, што неяк было не весела. Нават продаж у антрактах піва і віна не вельмі дапамагаў арганізатарам. З аднаго боку, можа, гэта і нармальны стан для падобнага фестывалю? Трэба ж зрэдку і лірычнасці нагнаць на нашых аматараў музыкі. Ды няхай выбачаюць мяне арганізатары, але адчувальны на падобнага роду мерапрыемствах недахоп эксперыментатарства. Да прыкладу, тут можна пагуляць з пэўным настроем. Чаму б таму ж "Вакзалу" не запрасіць на канцэрт ганаровых гасцей — кантралёраў і праваднікоў чыгункі? Ці чаму б маладому мінскаму гурту "Blues Ground" падчас выканання імі вядомых кампазіцый не дэманстраваць партрэты сусветна-вядомых спевакоў? Падчас ігры некаторых каманд не толькі добра танчыцца і п'ецца ліманад, але таксама і малюецца. Можна даваць наведнікам паперу, алоўкі, каб яны спрабавалі замаляваць адзін з гуртоў. Так, мне спадабалася, калі дырэктар "Star club" Генадзь Старыкаў запрапанаваў журналістам вызначыць, на свой густ, сярод выступоўцаў лепшых.

Асаблівы ажыятаж назіраўся падчас ігры "Калі-Югі". У зале часта, як птушыны акампанемент, чуліся дзявочыя крыкі: "Ка-лі Ю-га!" Гэта надало музыкам пэўнай бадзёрасці, і яны падарылі наведнікам некалькі арыгінальных кампазіцый. Па ўсім бачна, што хлапцам гэтай каманды наканавана добрая музычная будучыня. Тут і варта паўтарыць фестывальны дэвіз: "Блюз жыве ў Мінску!"

Па-свойму запамінальны аказаўся выступ гітарыстаў Шадько і Паўлава, якія нагналі ў залу яшчэ больш лірычнасці і, здаецца, ледзь не запалілі над сцэнай зоркі. "Выпадкова зіма пройдзе сама сабой..." — гэтак спакойна заявілі выступоўцы і мелі рацыю, бо ўвесь холад з залы яны выгналі.



"Азонавая дзірка".




"Blues Ground".

Выступленне Аляксандра Растапчына было ў фінальнай частцы канцэрта. Гэткая расстаноўка творчых сіл прынесла пэўныя перамогі арганізатарам фэсту. Бо лепшых падавалі, як кажуць у народзе, на дэсерт. Народу ў зале паболела. Цяпер ля сцэны стварылася сапраўднае жывое мора, хвалі якога ўздымаліся музыкай. Праўда, можна сцвярджаць, што музычны голад фестываль, нягледзячы на сваю працягласць, не здолеў спатоліць. Магчыма таму, што не адбылося выступленняў некаторых заяўленых і разрэкламаваных гуртоў. Дэвіз фестывалю пашырыўся і хутчэй пад занавес гучаў як "Блюз жыве на Беларусі!" Але спадзяванні арганізатараў на выхад на міжнародную сцэну мне здаюцца малаверагоднымі. Бо хаця першакласная музыкі ў нас ёсць, але іх вельмі мала. Мастак Артур Клінаў, якога я пабачыў пасля канцэрта, пашкадаваў, што пад гурт "Троіца" не падаюць піва "Траецкае" і вэнджаный рыбы. Можа, ён меў рацыю?

**Зміцер ВОЛКАЎ**
**Фота Алега КРАСНОВА**

# ЧАСОПІС, ЯКОГА НЕ ЧАКАЛІ




Аматары музыкі атрымалі неспадзяваны падарунак: у нашыя часы, калі прыватны выдавецкі бізнес пачувае сябе гэтак жа няўпэўнена, як і ўвесь бізнес наогул, мінская фірма "Нестор", вядомая як хоць бы выдавец штотыднёвіка "Музыкальная газета", запусціла новы праект — ілюстраваны часопіс "Jazz квадрат". Першы ягоны нумар выйшаў з друку тыражом 5000 экзэмпляраў, з якіх амаль палова ўжо загадзя была замоўлена расійскімі распаўсюджвальнікамі прэсы.

Як гэта ні дзіўна, але мінскае выданне — адзіны ва ўсім свеце рускамоўны джазавы часопіс. Гэтая акалічнасць прыдае выдаўцу значную долю аптымізму адносна далейшага лёсу часопіса. Яшчэ адзін паказчык таго, што "Jazz квадрат" знойдзе свайго чытача, — гэта рэакцыя на ягонае з'яўленне карыстальнікаў сеткі *Internet*, куды дэбютны нумар быў змешчаны за два тыдні да ягонага выдання. Часопіса яшчэ па сутнасці не было, але водгукі на яго пачалі паступаць адусюль праз камп'ютэрныя сеткі.

Змест першага нумара даволі разнастайны. Тут і гістарычныя матэрыялы накшталт нарыса пра творчы шлях Чарлі Паркера, невялікія партрэтныя замалёўкі адносна маладых джазавых музыкантаў, пра якіх зараз шмат гавораць у свеце джаза, інтэрв'ю з удзельнікамі "Ленинградского диксиленда", кампазітарам і выканаўцам Вячаславам Ганеліным, мінскім гітарыстам і аранжыроўшчыкам Уладзімірам Ткачэнкам, які распавядае пра інструменты, на якіх ён іграе.

Шмат месца адведзена агляду навінак з рынку кампакт-дыскаў, прычым тут можна сустрэць не толькі джазавыя, але й блюзавыя выданні. А паколькі часопіс выдаецца ў Беларусі, цалкам зразумелы той факт, што адшукалася месца і для беларускіх джазавых музыкантаў. Гэтым разам адзін з матэрыялаў прысвечаны лепшай джазгрупе Беларусі "Яблычная гарбата". Гэта — слушнае рашэнне: улічваючы той факт, што асноўны чытач часопіса будзе знаходзіцца ў Расіі, варта распавядаць яму пра лепшае, што мы маем у гэтым жанры, і пра тых выканаўцаў, якія па-за межамі краіны вядомыя яўна недастаткова.

Безумоўна, першы нумар нясе ў сабе колькі яўных прыкмет "першага бліна". Напрыклад, дзе-нідзе тэкст надрукаваны залішне шчыльна, не да канца, як здаецца, адпрацаванае мастацкае вырашэнне асобных старонак, а колькасць рэцэнзій выразна перавышае актуальную інфармацыю, якой у гэтым нумары практычна няма. Хоць, як лёгка зразумець, выдавец спяшаўся зазначыць сябе на выдавецкім рынку, што для першага разу атрымалася зусім няблага.

Сёлета, наколькі нам вядома, запланаваны выхад яшчэ мінімум двух нумароў. А з наступнага года "Jazz квадрат" павінен паступаць у продаж рэгулярна — штомесяц.

**Антон ОРША**



**44 гады — кароткі век. Пакінуў нас Юрый Сарычаў — акцёр Дзяржаўнага тэатра лялек Рэспублікі Беларусь, заслужаны артыст Беларусі.**

**Не хапае слоў ад жалю.**

**Юра быў добры артыст і рэжысёр, які рабіў сваю справу нягледзячы на боль цела, а больш — душы. Зроблена шмат роляў, шмат пастаўлена добрых спектакляў у тэатрах лялек Мінска, Брэста, Маладзечна.**

**Зашмат мы сталі хаваць добрых артыстаў на Беларусі, але, мусіць, такі ўжо лёс.**

**Бог даў, Бог узяў.**

**"Твой човен паплыве на вечны востраў, а ў хуткім часе і нам там знойдзецца месца".**

**Бывай Юра, бывай наш сябра.**

**Твае калегі**

# КУЛЬТУРА




## "ЕЎРАРАМОНТ ДЫКТУЕ МОДУ..."

**Ларыса БОРТНІК**

У кантэксце дыскусіі пра мастацкую крытыку, узнятай Барысам Крэпакам, мне хацелася б сказаць наступнае.

Маючы вялікі вопыт галерэйнай працы ў Мінску і за мяжой, прычым як у дзяржаўных, так і ў прыватных выставачных залах, магу сказаць: не дайшла яшчэ да нас галерэйная цывілізацыя. Няма адукаваных, сумленных уладальнікаў, няма культуры экспазіцыйнай падачы твораў, афармлення залаў, прыёму наведнікаў. Нават тыя галерэі, што адчыняюцца цяпер, настолькі нагадваюць аптэкі, банкі ды крамы, што ўсведамляеш: "Еўрарамонт" дыктуе інтэр'ерную моду нават людзям мастацтва.

Дзяржаўныя выставачныя залы існуюць пастарому, страціўшы тое неблагое, што было там дасюль, з'ехаўшы да сухога і хуткага "гартання" экспазіцыйных старонак.

Прыватныя галерэі пачыналіся з прыгожых прэзентацый, шматабяцальных перспектыў для мастакоў і для грамадства, але заціснутыя неверагодным падаткаабкладаннем, арэнднай платай за памяшканні і прагай лёгкага ўзбагачэння, яны альбо зачыніліся, альбо ператварыліся ў крамы па продажы твораў сумніўнага ўзроўню, посуду, вопраткі.

А калі дадаць да гэтага адсутнасць прафесіяналаў, неразуменне ўладальнікамі ключавой ролі мастацтвазнаўцы ў выставачнай палітыцы, дык сітуацыя вымалёўваецца тужлівая.

Мастакі ж, бачачы непрафесіяналізм і нізкі ўзровень існуючых салонаў-крамаў, не даюць добрыя творы ні ў Саюз мастакоў, ні ў галерэю "Мастацтва", ні ў "Медыю", ні ў Палац мастацтва, ні, за рэдкім выключэннем, у "Жыльбел". Прадаюць творы проста з майстэрні, дзе творчая атмасфера настройвае наведнікаў на адпаведнае ўспрыняцце твораў. Тут можна пераканаць, зацікавіць, ды і кошт паменшыць, у той час, як прадаўцы ў салонах, улічваючы ўласную зацікаўленасць, старанна ўздымаюць кошты.

У выставачных залах крамаў пакупнікі не адчуваюць увагі да сябе. У лепшым выпадку наведнік сам напрошваецца на размову, у горшым — вяртаецца ні з чым. Толькі ў Саюзе мастакоў умеюць "паказаць тавар". Але ўсюды патрэбны гід, каб глядач не заблытаўся ў лабірынце шматлікіх стракатых экспанатаў, дзе нават прафесіяналу цяжка зарыентавацца.

Уласна кажучы, галерэй у Мінску няма. Замест ідэальнай мадэлі "мастак — галерэя — пакупнік" мы сёння маем скарочаны варыянт: без таго самага, цэнтральнага звяна, пра якое ідзе гутарка. Спрацоўвае, на жаль, правінцыйная боязь вышыні.

Упэўнена, што толькі мастацтвазнаўцы і крытыкі здольныя фармаваць грамадскую думку і ў выставачных залах, і на старонках газет і часопісаў, на радыё і тэлебачанні. Але, як вядома, у мастацтве і медыцыне "дасведчаныя" ўсе. Вось і пішуць пра мастакоў журналісты і нежурналісты, старанна запаўняючы тую нішу, што ўтварылі самі прафесіяналы сваёй маўклівасцю. А тыя пішуць і ўхваляюць, абапіраючыся на ўласны, часта "гастранамічны" густ, іншы раз хваляць мастакоў, якія пасля гэтага пачынаюць пакутаваць на манію велічы.

Мастацтвазнаўцам і крытыкам, хаця іх і няшмат, безумоўна ж, трэба пісаць пра мастацтва ва ўсе газеты і часопісы, не чакаючы з'яўлення нейкіх спецыялізаваных мастацтвазнаўчых часопісаў альбо "дзяржзамоваў". Іх яшчэ доўгі час не будзе. Бо людзі ў пераважнай большасці не выпісваюць газету "Культура", дарэчы, адзіную ў краіне, якая прафесійна і цікава асвятляе мастацкае жыццё. А шкада...

Я ўжо не кажу пра часопісы, дзе якасць паперы і друку такія, што сам мастак не заўсёды можа пазнаць свой твор.

## "ЛЮДЗІ ГЭТАЙ ПРАФЕСІІ ВАРТЫЯ ЖАЛЮ..."

**Людміла ЛАПЦЭВІЧ**

Беларуская мастацкая крытыка, як, дарэчы, і мастацтвазнаўства, сёння знаходзіцца ў надзвычайным заняпадзе. Драма ідэй, адсутнасць вялікай і агульнай мэты ў наш крызісны і пераломны час — час стрэсаў і расчараванняў, не маглі не паўплываць і на стан крытычнай думкі.

Так, мы нарадзіліся ў СССР і савецкага засталося ў нас шмат і, верагодна, надоўга. Мы прызвычаіліся да таго, што галоўнае — змест, грамадзянскасць, патрыятызм, рэвалюцыйнасць і г.д. З гэтым і жылі.

Але сёння мастацтва моцна змянілася пад уплывам новага замоўцы і камерцыялізацыі. Яно стала больш арыентавацца на індывідуума, ягоны попыт і патрэбы. Яно імкнецца да большай блізкасці да шараговага спажыўца. Так здаралася і раней, калі вялікія ідэі, што кіравалі сваім часам, зацягваліся руцінай, нібыта караблі ракавінамі. І здзіраючы гэтыя ракавіны, мы думаем, што ператвараем гэтыя ідэі мінулага часу ў пыл. На самой жа справе мы толькі чысцім іх. Ідэі не паміраюць...

І тут неабходная выпрацоўка новых творчых канцэпцый, якія б ахапілі жывой думкай мастацкія працэсы ў іхняй гістарычнай і эстэтычнай цэласці і паказалі б беларускае мастацтва ў кантэксце агульнаеўрапейскай культуры.

Патрэбны трамплін для развіцця мастацтвазнаўчай думкі. Але страчана нават інерцыя руху.

У тыя часы, калі "наверсе" зацвярджаліся выдавецкія планы і кантраляваліся часопісныя артыкулы, была ўсё ж створана шырокая інфармацыйная прастора. Гэта было своеасаблівае сілкаванне, што ішло ад жывой плыні савецкага мастацтвазнаўства, заснаванага на стасунках падчас шматлікіх выстаў, семінараў, сімпозіумаў, канферэнцый, у Дамах творчасці.

Ці не таму я так часта ўзгадваю маіх шаноўных калег па прафесіі з самых розных гарадоў і краін былога СССР, з якімі сёння практычна немагчыма сустрэцца.

Карацей, сёння старыя формы калектыўнага існавання крытыкаў разбураныя, а новыя не знойдзеныя. Не ўсталяваныя і нармальныя ўзаемастасункі з дзяржавай. Няма сацыяльнай замовы. А мастацтвазнаўца патрэбны такі, які можа прадаваць творы. Няма дзе публікаваць сур'ёзныя, прафесійныя артыкулы і кнігі. Не працуе больш на навуку былое выдавецтва "Навука і тэхніка". Няма высокапрафесійнага, спецыялізаванага часопіса.

А што да газетнай прадукцыі іншых друкаваных органаў, дык тут і казаць няма што. Непрафесіяналы, якія займаюцца мастацтвазнаўствам, лёгка могуць мяняць "мінусы" на "плюсы", лёгка маніпулююць мастацкімі фактамі на дылетанцкім узроўні ў залежнасці ад таго, на каго яны працуюць і якіх творчых поглядаў прытрымліваюцца... Усё ж мяркую, што без дзяржаўнай падтрымкі прафесійнаму беларускаму мастацтвазнаўству і мастацкай крытыцы не выжыць. Гэта факт.

Так, меў рацыю М.Алпатаў, калі аднойчы напісаў: "Сапраўды, людзі гэтай прафесіі (г.зн. мастацтвазнаўцы. — Л.Л.) вартыя жалю; яны пастаянна бачаць шмат добрага мастацтва, жывуць у ім усё жыццё, але самі застаюцца знешнімі назіральнікамі, накшталт таго начальніка чыгуначнай станцыі, які з сумам праводзіць вачыма цягнікі ў далёкія шчаслівыя краіны, куды яму ніколі не трапіць".

## "НА СРОДКІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ КРЫЎДЫ Ў МЯНЕ НЯМА..."

**Мікалай ПАГРАНОЎСКІ**

Да мастацтвазнаўства з боку мастакоў склалася спажывецкае стаўленне. Як да "абслугі" — не больш. Беларускія мастакі (у сваёй большасці) ставяцца да мастацтвазнаўцы (крытыка) прыкладна як да рэкламнага агента, які абавязкова павінен незалежна ад якасці твора даць добрую рэкламу. На жаль, мастакі не жадаюць зразумець, што мастацтвазнаўца (крытык) — разам з мастаком фармуюць агульны мастацкі працэс... і ў выніку — мастацкі густ грамадства. Вось да мяне прыходзіць мастак і просіць, каб я напісаў пра яго добрыя словы. Так, ён добры чалавек, але я не магу напісаць добрыя словы пра ягоную творчасць. І не таму, што ягонае мастацтва кепскае: проста ён — "не мой" мастак. Гэта як у музыцы, дзе ёсць свае любімыя спевакі і кампазітары.

Быў у мяне такі выпадак з Пятром Дурчыным. Ён папрасіў мяне напісаць уступны артыкул для ягонага каталога. Чалавек ён паважаны, ветэран вайны (светлая яму памяць!) — і я пагадзіўся. Напісаў. Але потым згодна з настойлівай просьбай Пятра Сідаравіча давялося некалькі абзацаў змяніць. У сэнсе — ухваленняў. Карацей, праявіў слабасць: напісаў не зусім тое, што хацеў...

Наогул, я стаўлюся да мастакоў далікатна. Разумею, што іх лёгка параніць, яны могуць узгадаць і праз дзесяць гадоў якое-небудзь, незнарок вымаўленае выказванне пра ягоную, скажам, карціну. Але гэта ўжо такое нашае жыццё, спецыфіка нашай творчай працы. Галоўнае — даць магчымасць творцы ствараць і дапамагчы яму ў гэтым тымі сродкамі, якія даступны крытыцы.

Адзін з самых слабых бакоў нашай мастацкай крытыкі — няўменне прагназаваць мастацкую сітуацыю. У 60 — 70-я гады такія спробы рабіліся. Пагартайце хаця б часопісы "Творчасць", "Мастацтва", "Дэкаратыўнае мастацтва", дзе друкаваліся і нашы крытыкі Алег Сурскі, Барыс Крэпак, Эма Пугачова. Абмяркоўваліся праблемы, выставы. Карацей, быў рух.

Пасля перабудовы прыйшла свабода творчасці. Свабода з'явілася, а крытыка знікла. Хтосьці з мастацтвазнаўцаў, крытыкаў пайшоў на дзяржаўную службу, хтосьці — у камерцыю, нехта стаў выкладчыкам. Адным словам, сёння крытыка — у крызісе, і тут я цалкам згодны з Барысам Крэпакам.

Аднак, што да сродкаў масавай інфармацыі... У мяне на іх крыўды няма за тое, што нібыта яны адбіраюць у прафесіяналаў хлеб надзённы. У ЗША, да прыкладу, амаль усе журналісты пішуць пра выставы, нават на мяжы эпатажу. Ну і што?

А каму пісаць у нас? Секцыя крытыкі паводле свайго ўзросту вельмі паважная, маладых кадраў практычна няма, а калі хтосьці і ўступае ў творчы саюз, дык гэта, звычайна, часцей гісторыкі мастацтва, чым крытыкі.

Некалькі гадоў я чытаю лекцыі ў мастацтвазнаўцаў у Акадэміі мастацтваў. Вось сёлета выпусцілі дзесяць чалавек, і, павінен сказаць, сярод іх ёсць адораныя людзі. Мяркую, што такія імёны, як Ірына Небышынец, Ірына Асташава, неўзабаве загучаць на поўную моц.

І апошняе. Не сакрэт, што мастацтвазнаўца таксама хоча есці. Дык вось, на тых мізэрных ганарарах, што ён атрымае ў "ЛіМе", альбо ў "Культуры", альбо ў часопісе "Мастацтва", ён доўга не працягне. Пацікаўцеся, колькі вам могуць заплаціць за адзін і той самы артыкул часопісы "Мастацтва" і "Золотая орхидея"? Розніца атрымаецца велізарная! Таму, калі мастацтвазнаўца хоча падзарабіць грошай, ён, натуральна, пойдзе не ў "Мастацтва" альбо "Культуру", а ў камерцыйнае выданне, дзе заплацяць у 4 — 5 разоў болей. І тут нічога не парабіш...

## "НІША" Ў СІТУАЦЫІ АРТ-РЫНКУ

**Алена АТРАХОВІЧ**

Як вярнуць слову крытыка вагу? — гэта адна з самых надзённых задач. Шляхі вырашэння гэтай праблемы неадназначныя. Адзін са шляхоў — умацаванне ролі спецыялізаваных выданняў па мастацтве. Магчыма, гэта некалькі выданняў з дакладна вызначанымі ролевымі функцыямі, дзе кожнае здольнае заняць нейкую сваю "нішу" ў сітуацыі фармавання арт-рынку. Разнастайнасць якасна выдаваемых спецыялізаваных часопісаў па мастацтве — гэта магчымасць умацаваць ролю сучаснага мастацтвазнаўцы як эксперта, магчымасць дамагчыся таго, каб меркаванне мастацтвазнаўцы ўплывала на ўзровень коштаў і на рэйтынг мастака, карацей, — на сітуацыю. Крытык — эксперт у мастацтве, часопіс — трыбуна мастацкага крытыка.

Тут, безумоўна, у першую чаргу паўстаюць пытанні фінансавання, акупнасці выдання і г.д. Але пры разнастайнасці творчых арганізацый гэтая праблема ў перспектыве робіцца вырашальнай. Так, часопіс па мастацтве можа фінансавацца, да прыкладу, галерэяй, культурным фондам, карацей, мець дадатковую падтрымку. Тут мы зноў вяртаемся да пытання фармавання новых арганізацыйных структур, неабходных для нармалізацыі мастацкага жыцця.

Такія творчыя арганізацыі, разнастайныя паводле сваіх задач, ужо пачалі з'яўляцца. Цікавы прыклад — Асацыяцыя ў падтрымку сучаснага славянскага мастацтва, створаная ў студзені 1997 года. Ў ёй аб'ядналі свае высілкі мастацтвазнаўцы, мастакі, дзеячы навукі, культуры, юрысты, журналісты дзвюх краін — Беларусі і Польшчы. Арганізацыя гэтая некамерцыйная, у сферы яе асноўных інтарэсаў — вывучэнне і папулярызацыя сучаснага выяўленчага мастацтва творцаў розных краін.

У бліжэйшыя планы Асацыяцыі ўваходзіць правядзенне цыкла экспрэс-выстаў сучасных мастакоў (першая такая выстава ўжо была наладжана ў Палацы мастацтва), а таксама напісанне і выданне зборніка артыкулаў па пытаннях сучаснага выяўленчага мастацтва.

Важна адзначыць, што гэтая Асацыяцыя ўваходзіць у лік сузаснавальнікаў Міжнароднага культурнага Фонду Кандрата Крапівы. Імя гэтага выдатнага дзеяча беларускай культуры і вызначыла асноўную канцэпцыю Фонду — падтрымка і спрыянне працэсу развіцця культуры і мастацтва.

Заканамерна і тое, што да дзейнасці Асацыяцыі і Фонду выказваюць немалую цікавасць і рэальна іх падтрымліваюць прадпрымальніцкія структуры нашай краіны. Так, сумеснае прадпрыемства "Белая Вежа", эксклюзіўны дыстрыб'ютар фірмы "Kodak" у Рэспубліцы Беларусь матэрыяльна дапамагае ў наладжванні мастацкіх выстаў. Юрыдычнае забеспячэнне ўзялі на сябе фірмы "Аудыкс" і "Эдыктум". Сур'ёзную цікавасць да гэтай дзейнасці выказваюць і замежныя прадпрыемствы, да прыкладу, фармацэўтычная фірма "Berlin-Chemie" (Menarini Group), і шмат хто яшчэ. Паліграфічнае забеспячэнне ўзяло на сябе закрытае акцыянернае таварыства "Нессі". Дынамічны пачатак атрымала і супрацоўніцтва з Міжнародным гуманітарным фондам спрыяння развіццю Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

# "ЗАЛАТОЕ КОЛА БЕЛАРУСІ"

Віталь МЯДЗВЕДЗЕЎ,
член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, доктар эканамічных навук



Багацце любой краіны заўсёды асацыюецца з наяўнасцю золата, каштоўнасцяў ці іх эквівалентаў. А патэнцыял гэтай краіны характарызуецца назапашваннем гэтых багаццяў.

Багацце сучаснай Беларусі — эканамічнае, сацыяльнае, інтэлектуальнае — назапашвалася (і перыядычна знішчалася) тысячагоддзямі. Але назапашанае багацце памнажаецца толькі ў тым выпадку, калі яно актыўна выкарыстоўваецца, аднаўляецца, умацоўваецца.

Ні з чым не параўнальным імпульсам для актывізацыі агульнага патэнцыялу краіны з'яўляецца набыццё ёй незалежнасці, яе суверэнітэт, свабода. Істотным элементам новай сацыяльна-эканамічнай сістэмы незалежнай Беларусі з'яўляюцца "Свабодныя эканамічныя зоны", стварэнне якіх у краіне адкрывае новыя магчымасці сацыяльна-эканамічнага развіцця і інтэлектуальнага росту. Адным з бадай самых арыгінальных і цікавых праектаў у гэтым накірунку з'яўляецца "Залатое кола Беларусі". Гэта комплексны шматпланавы праект. Я спынюся толькі на эканамічных аспектах і магчымых сацыяльна-эканамічных наступствах яго рэалізацыі.

1. З пазіцыі эканамічнай ацэнкі праекта — ён рэалістычны.

2. Эканамічна абгрунтавана эфектыўнасць яго рэалізацыі.

3. Праект улучае ў новую сферу эканамічнай дзейнасці тысячы новых суб'ектаў, юрыдычных і фізічных асобаў, пашырае магчымасці працоўнай дзейнасці для соцень тысяч працоўных.

4. Абуджае інвестыцыйную і інавацыйную актыўнасць дзесяткаў тысяч індывідуальных і калектыўных інвестараў, айчынных і замежных.

5. Стварае падвышэння эканамічнай эфектыўнасці ў турысцка-экскурсійнай дзейнасці на Беларусі.

6. Пашырае магчымасці развіцця знешніх эканамічных і інтэлектуальных сувязяў Беларусі з замежнымі краінамі Усходу і Захаду.

7. Улучае ў сферу эканамічнай дзейнасці вялікую колькасць гэтак званых перыферыйных тэрыторый, правінцый, рэгіёнаў.

8. Спрыяе кардынальнаму ператварэнню структуры эканомікі рэгіёнаў, якія ўвойдуць у свабодную эканамічную зону.

9. Пашырае магчымасці скарыстання працы ў новай сферы эканомікі — сферы паслуг.

10. Улучае ў новы эканамічны рух прыродныя рэсурсы рэгіёнаў, якія ўвойдуць у "Свабодныя эканамічныя зоны".

11. Умацняе ўзаемасувязь эканамічнай дзейнасці чалавека з яго інтэлектуальнымі магчымасцямі, паскарае працэс фармавання ў нашага народа новага эканамічнага мыслення, скіраванага на інтэнсіфікацыю яго ініцыятыўнай дзейнасці, індывідуальнай ініцыятыўнасці, фармаванне сферы канкурэнцыі.

12. Стварае магчымасці фармавання вялікай эканомікі, пачынаючы з закладкі аб'ектаў "малой" эканомікі, не вельмі капіталаёмістых, але больш прывабных для асобных рэгіёнаў і прыватных прадпрымальнікаў ды інвестараў. Аднак наўрад ці будзе правільным лічыць, што стварэнне СЭЗ разлічана на пяцьдзесят гадоў. Хутчэй, пяцьдзесят гадоў — гэта працэс фармавання "Залатога кола Беларусі", адносна галоўнага комплексу.

13. Выбар прыярытэтных накірункаў у структуры фармавання эканомікі "зоны" пярэчаннях не выклікае. "Эканомікаствaральнымі", "хрыбтовымі" рэкамендуецца прызнаць галіны "турысцка-рэкрэацыйнага" тыпу. Аднак замежны вопыт сведчыць, што выжываюць толькі тыя свабодныя зоны, якія маюць некалькі асноўных галін, што ў комплексе "страхуюць" адна адну і забяспечваюць не толькі выжыванне "зонаў", але і высокую эфектыўнасць функцыянавання.

14. Падвышае эфектыўнасць выкарыстання ўнутраных камунікацый (дарог, транспарту, сувязі і г.д.).



15. Стварае новыя ўмовы для выкарыстання ў СЭЗ вызваленых сёння ваенных аб'ектаў (698), ваенных гарадкоў, якія могуць быць рэканструяваны і дзе могуць быць створаныя прадпрыемствы па абслугоўванню турысцка-рэкрэацыйнай дзейнасці.

Прапанаваная мадэль праекта "Залатое кола Беларусі" значна шырэйшая за яго асноўныя эканамічныя мэты. Яго стратэгічная задача скіраваная на пераўтварэнне інтэлектуальнай сутнасці чалавека, захаванне і актывізацыю культурнага патэнцыялу беларускага народа.

---



***Мы працягваем друкаваць цыкл матэрыялаў, падрыхтаваных псіхолагам Канстанцінам СЯЛЬЧОНКАМ. Гутаркі на тэмы "Мараль і права" і "Выбар прафесіі" вы маглі прачытаць у №№ 30 і 34.***



# КАРАНІ ЖОРСТКАСЦІ

## З гутарак-кансультацый

**— Кажуць, што кожны чалавек нараджаецца беззаганным, што душа дзіцяці чыстая, аднак у нашым свеце столькі жорсткасці, столькі агрэсіі. Адкуль жа яна ўзнікае?**

— Яна не ўзнікае, яна перадаецца з пакалення ў пакаленне на працягу тысячагоддзяў. Проста нас за апошняе тысячагоддзе стала на Зямлі больш, і, натуральна, зла пабольшала. Кажуць, што светам кіруе любоў, але, чым больш я жыву, тым больш пераконваюся, што гэтая максіма зусім не апісанне рэальнасці. Я мяркую, што светам кіруе жорсткасць, і мы проста перадаем яе з пакалення ў пакаленне, ад бацькі да дзіцяці. Яна не ўзнікае, — яна ёсць. Іншае пытанне, як яе прыбраць, як ад яе пазбавіцца. Я проста канстатую факт: жорсткасць жыве, прысутнічае і, на жаль, ужо доўгія стагоддзі не знікае са свету людзей.

**— Ці можна ў маленстве вызначыць схільнасць чалавека да жорсткасці і папярэдзіць яе? Калі дзіця, да прыкладу, б'ецца ў пясочніцы, псуе цацку.**

— Жорсткасць — гэта маральная ацэнка, а вось цвёрдасць — вельмі падобнае слова. Так, бываюць дзеці жорсткія, бываюць жорсткія бацькі. Калі дзіця з прычыны грубасці ўспрыняцця альбо з прычыны цікаўнасці псуе цацку, гэта нельга назваць жорсткасцю, але калі ж яно гэта робіць з іншым чалавекам альбо з сабою, тады ў ім нараджаецца жорсткасць, гэта значыць, якасць, якая робіць іншым шкоду. А дзеці ўвогуле жорсткімі не нараджаюцца. Я лічу, што жорсткасць — гэта якасць, неўласцівая чалавеку. Гэта тое, што накатваецца падчас сталення, нібыта снегавы ком, сярод дарослых, моцных, зубатых.

**— Жорсткасць і агрэсіўнасць — гэта розныя паняцці альбо іх нешта яднае?**

— Слова "цвёрдасць" мне падабаецца болей, яна больш падобная да механічнага вызначэння нежывога і, наогул, таго, што сябе не кантралюе. Я таму і сказаў, што спадчынныя якасці чалавека сапраўды падобныя да цвёрдасці. Агрэсія — гэта перапыненне руху, знішчэнне, разбурэнне. Трэба вельмі моцна пажадаць, каб разбурыць тое, што табе не падабаецца, нават калі гэта ты сам. Гэта блізкія паняцці, але ўсё-такі агрэсія больш страшная. Агрэсія — гэта наогул знішчэнне жыцця. Даразчы, жывёлы агрэсіўныя. Калі жывёла хоча есці, яна проста з'ядае аднаго труса і ідзе далей. У чалавека — паіншаму, чалавек можа з асалодаю, згодна са звычкаю паўтараць адно і тое разбуральнае дзеянне, нават не задумваючыся над тым, што ён робіць. Дай Божа, каб мы іншы раз былі цвёрдымі, — усё ж шкілет патрэбны, інакш мы ператворымся ў амёбу. А агрэсія ёсць гіпертрафаваная жорсткасць, і яна заўсёды скіраваная супраць таго, чаго ты не разумееш.

**— Улюбёны занятак малпаў цягнуць за сабою бляшанкі і грукаць. Калі ў малпы іх адабраць, яна можа пакрыўдзіцца. Спадар Канстанцін, а як усталяваць стасункі з людзьмі, якія агрэсіўныя па натуры?**

— А вы не задумваліся, чаму гэтая малпа грукае бляшанкамі? Каб звярнуць на сябе ўвагу. Гэта прылада самавыказвання. Для малпаў, як і для многіх людзей, гэта нармальна, мы грукаем прыгожымі машынамі, правільнымі кніжкамі, прыгожымі выступленнямі — гэта нармальна. А калі гэта адбіраюць, мы не задумваемся над тым, для чаго мы грукалі. Мы не задумваемся над тым, што грукаць няма сэнсу, усё і так відаць. Хаця малпа — гэта істота добрая і ёй зусім не трэба грукаць бляшанкай, каб паказаць, якая яна добрая.

**— Ці можна не зрабіцца жорсткім, калі чалавек не бачыць выйсця з гэтай сітуацыі?**

— Гэта забабоны, што існуюць безвыходныя сітуацыі. Гэта вельмі зручная формула для таго, каб мець права зрабіцца жорсткім у падобных варунках. Дабрыня і зло — гэта словы. Асноўная прычына жорсткасці ў тым, што мы словы прымаем за рэальнасць. Мы проста назвалі гэта дабрынёй. А гэта — злом. Зло — гэта тое, што мы не прынялі, не ўспрынялі. І наогул з прычыны веры людзей у рэальнасць словаў, у тое, што гэта не проста вібрацыя гукаў, на палюсах гэтых словаў нараджаецца жорсткасць. Самае цікавае, я ўчора адкрыў гэтую формулу для сябе. Асноўныя дзеясловы чалавека — кахаць, думаць, адчуваць. Жорсткасць нараджаецца тады, калі няма першага, другога і трэцяга. А чаму гэтыя тры складнікі не нараджаюцца? Таму што мы ўсе адзін аднаму крычым, што мы або можам навучыцца любіць, альбо можам любіць і г.д. А зірнеш наўкола — мала хто ўмее спакойна адчуваць.

**— Як уплывае асяродак на фармаванне гэтых якасцяў?**

— Асяродак жорсткі. Выйдзіце на вуліцу і паглядзіце. Я сёння спецыяльна шпацыраваў па вуліцы дзве гадзіны і бачыў за гэты час пяць радасных, нязлосных твараў. І калі б я быў маленькім дзіцем, я б увабраў той максімум, а зусім не тыя пяць твараў, якія не былі характэрныя для масы. Дзвіз грамадства: жыццё — гэта барацьба за існаванне. Грамадства жорсткае, таму што грамадства дазволіла сабе быць жорсткім. Яно прыняло гэта за ўзровень якасці.

**— Якімі спосабамі можна супрацьстаяць і дапамагчы жорсткаму чалавеку?**

— Калі вы разумееце, што гэты чалавек не вінаваты ў тым, што ён жорсткі, што ён не быў вольны прымаць альбо не прымаць. Хаця б той жа прынцып айкідо: не адказваць ударам на ўдар. Хаця б у душы не адчуваць да яго зласлівасці, разглядаць яго як максімум, як злую жывёлу. Паверце, яму будзе нецікава з вамі біцца, ён астыне вельмі хутка, альбо ён знойдзе да сябе падобнага і пачне біцца з ім. Асабіста я імкнуся рабіць так.

**— Як выкараніць жорсткасць у грамадстве?**

— Мы ўздымаем праблему, але мы не можам вырашыць яе таму, што гэта не праблема канкрэтнага чалавека — гэта дыягназ сучаснага свету. Гэта прыкмета дэградацыі, не проста заняпаду — гэта прыкмета ажывёльвання людзей, таму што мы пайшлі ад звяроў не туды, куды трэба, а наадварот, пакаціліся ўніз. І мы не ў стане ні за год, ні за пяць гадоў вынішчыць гэтую жорсткасць. Знішчыць гэта ўвогуле немагчыма, тут трэба пачынаць з выхавання. Гэта паступовая праца, якую трэба правесці з усім чалавецтвам. Я думаю, што мала хто з тых, хто хоча выкараніць жорсткасць, разумее, якая гэтая праблема. Я мяркую, жорсткасць — гэта корань праблем сучаснага свету, і корань гэты — схаваны, глыбокі.

**— На адно і тое можна глядзець па-рознаму, можна ўбачыць і добрае, і кепскае. У прыродзе нічога не існуе проста так, і калі існуе жорсткасць, дык для гэтага ёсць падстава. А Вы як мяркуеце?**

— Я магу паўтарыць свой адказ: мы давяраем словам больш за ўласныя адчуванні, мы верым нейкім клішэ і гатовыя забіць чалавека за словы. І мне вельмі падабаецца цудоўная метафара, што двое глядзяць у адно і тое вакно, а бачаць рознае. Калі на вуліцы брудна і нехта некага б'е, я буду вельмі доўга глядзець на гэта, але наўрад ці пабачу штосьці добрае. Прыгожы вясновы дзень, калі ўсё квітнее, усё роўна лепей за восень, калі ўсё распадаецца.

**— Хіба можа чалавек не вырасці жорсткім, калі яго ў жыцці ўсе падманвалі і падманваюць?**

— Сам ён вырасці не можа, узгадаваць — можна. Калі яго ныя бацькі з калыскі здольныя зберагчы ад жорсткасці. Для гэтага існуе інстытут школы, але толькі ў тым выпадку, калі шмат хто зразумее гэта. Калі трактарам перахаць кветку, безумоўна, ад яе нічога не застанецца, але калі яе захаваць, паставіўшы бар'ер, яна потым будзе добрым дзіцем і ўратуецца ад трактара.

**— Калі чалавек больш агрэсіўны: калі ён багаты альбо наадварот?**

— Я не думаю, што гэта ў прынцыпе залежыць ад багацця. Але, на жаль, законы сучаснага грамадства такія, што значна больш агрэсіўнымі яны робяць багатых. Таму што сам працэс здабывання багацця робіць чалавека больш вастразубым. Большасць багатых людзей за кошт больш жорсткія за бедных, якім няма за што біцца.

**— Ці праўда, што жорсткасць у фільмах нейтралізуе агрэсіўнасць людзей? Як аберагчы дзяцей ад сцэн жорсткасці і гвалту ў фільмах і баевіках?**

— Для пачатку проста кінуць іх дэманстраваць. Гэта самы просты рэцэпт. Па-другое, тое, што жорсткасць у кіно нейтралізуе агрэсіўнасць людзей, — гэта самая вялікая мана нашага часу. Закон падабенства, закон рэзанансу адказвае за тое, на што мы глядзім. І вось тая безліч фільмаў, якая цяпер вольна гуляе па нашых хатах, з'яўляецца адным са сродкаў праграмавання людзей на жорсткія паводзіны.

**— Язва страўніка ўзнікае не ад таго, што мы ядзім, а ад таго, што з'ядае нас. Эмоцыі патрабуюць выйсця, але разрадка на тых, хто побач, гэта не выйсце, а выхадка. Якімі спосабамі можна здымаць агрэсію?**

— Трэба проста часцей глядзець у люстэрка і бачыць там сябе, і самому вырашаць, добры ты альбо благі. Уся бяда ў тым, што мы рэдка глядзімся ў люстра ў гэтыя хвіліны. Нельга за кошт вонкавых паводзінаў перамагчы жорсткасць у сабе і за кошт угавораў таксама нельга. Трэба, каб чалавек убачыў, які ён непрыгожы і брыдкі, калі ён — гвалтаўнік. Я думаю, што гэта адзінае, што можа разбурыць яго ныя перакананні ў тым, што, маўляў, трэба выконваць правілы гэтага свету і заставацца жорсткім, як і ўсе навокал.




# НАМІНАЦЫІ ПЕРАМОГІ

***21 верасня ў Магілёве адбылося ўрачыстае закрыццё II Міжнароднага пленэру па жывапісе, прысвечанага 125-годдзю з дня нараджэння В.К.Бялыніцкага-Бірулі.***

Пленэр праходзіў у Магілёўскай і Цвярской абласцях, дзе жыў і стварыў наш знакаміты зямляк.

Дваццаць пяць мастакоў з Беларусі, Расіі, Польшчы, Украіны і Эстоніі — удзельнікі пленэру — прадставілі свае творы ў абласным мастацкім музеі імя П.В.Масленікава.

Аўтарытэтнае журы, якое ўзначаліла намеснік старшыні Беларускага Саюза мастакоў Святлана Гарбунова, падвяло вынікі пленэру і вызначыла пераможцаў па розных намінацыях. Імі сталі Фёдар Кісялёў (Беларусь) — "за лепшае кампазіцыйнае вырашэнне пейзажу"; Іван Сцяпанаў (Расія) — "за цікавае каларыстычнае вырашэнне"; Аляксандр Шарамет (Украіна) — "за арыгінальнасць пластычнага вырашэння"; Мікалай Ісаёнак (Беларусь) і Анджэй Кавалька (Польшча) — "за музычную пластыку ў жывапісе"; Леанід Дударэнка (Беларусь) — "за ўвасабленне ў жывапісе архітэктурнага вобраза". Гэтым мастакам і былі ўручаны галоўныя прызы — цудоўная ганчарная кераміка, спецыяльна створаная Тамарай Васюк.


Удзельнікі пленэру у дачы "Чайка", дзе жыў і працаваў В.Бялыніцкі-Біруля (Цвярская вобласць).


На адкрыцці мемарыяльнага знака на месцы дома ў Крынках, дзе нарадзіўся В.Бялыніцкі-Біруля. Аўтар — Уладзімір Лятун.

Удзельнікам пленэру былі таксама ўручаны прызы ад імя Савета міністраў і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Магілёўскага аблвыканкама і гарадской мэрыі, Бялыніцкага райвыканкама.

Ва ўрачыстасцях з нагоды закрыцця пленэру ўзялі ўдзел кіраўнікі вобласці і горада, Міністэрства культуры і Саюза мастакоў, супрацоўнікі амбасадаў Расіі і Украіны, дзеячы культуры, мастакі, мастацтвазнаўцы, журналісты, музейныя работнікі.

На свята мастацтваў прыехаў старшыня Саюза мастакоў Расіі, народны мастак Расіі, акадэмік Валянцін Сідараў, па ініцыятыве якога частка пленэру прайшла ва Удомльскім краі, што ў Цвярской вобласці, дзе працяглы час жыў Вітольд Каэтанавіч.

Святкаванне скончылася вялікім канцэртам Мусліма Магамаева і Тамары Сіняўскай.

Сапраўды, для вялікага мастацтва ніякіх межаў не існуе!

**Фота Андрэя СПРЫНЧАНА**

# У ГАСЦЯХ —


М.Ляўковіч. "Гуканне дзядоў".

Больш за два гады ў горадзе на Дзвіне існуе творчае аб'яднанне "Віцебская акварэль", якое ўзначальвае Міхаіл Ляўковіч. Сёння ў ягоным складзе — 20 чалавек, 15 з іх прадставілі свае творы на выставе ў Нацыянальным мастацкім музеі, што адкрылася 18 верасня.

Вернісаж стаў шматлюдным і святочным відовішчам. Прысутных — гасцей і ўдзельнікаў выставы — цёпла павіншавалі іхнія мінскія калегі, мастакі, мастацтвазнаўцы, журналісты, кіраўнікі Саюза мастакоў.

А віншаваць было з чым: экспазіцыя атрымалася на рэдкасць прыгожая, разнастайная паводле пластычных пошукаў і знаходак, паводле тэматыкі і настрою і, адначасова, цэласнай, канцэптуальна адзінай. І не дзіва. Віцебская школа акварэлі, асновы якой былі

(Працяг на стар. 17)


А.Шыёнак. "Возера Астравіта. Восеньскі матыў".

# КОЛЕР ЗНАЙШОЎ СВАЮ ФОРМУ...


Альгерт Малішэўскі.

З 1 кастрычніка ў мінскім Палацы мастацтва — выстава жывапісу Альгерта Малішэўскага. Сёлета ў верасні ён мог бы адсвяткаваць сваё 75-годдзе, толькі лёс адмераў яму на восем гадоў меней. Але хочацца верыць, што ягонаму мастацтву наканаванае доўгае жыццё...

Ён аддана любіў жывапіс, французскіх імпрэсіяністаў, любіў Веранэзэ, Тыцыяна, Эль Грэка, Ван Гога, Дэрэна, Каровіна, лічыў іх эталонам для кожнага творцы.

Памятаю, як ён упершыню наведаў Парыж. Вярнуўшыся, усхвалявана распавядаў мне пра тое ўражанне, якое на яго зрабіла сустрэча з творамі гэтых майстроў. "Ведаеш, — казаў ён, — у Парыжы я канчаткова зразумеў, што сапраўдны жывапіс — не "размалёўка", жывапіс — гэта жывое дыханне палатна, калейдаскоп светлавых эфектаў, свежасць першага ўражання. Гэта — калі кожны сантыметр палатна, дакладна выверany ў колеры, ведае сваё месца".

І Альгерт Адамавіч заўсёды імкнуўся да такога "ідэальнага" жывапісу, пачынаючы з першых пейзажных эцюдаў 50-х гадоў і заканчваючы карцінамі і партрэтамі 80-х.

Чалавек ён быў актыўны, камунікабельны, красамоўны, іншы раз з'едлівы, бязлітасны да халтуры. Ягоны няпросты ўнутраны свет быў нібыта сатканы з разнастайных духоўных нітак: акрамя мастацтва ён шмат гадоў аддаў выкладанню ў Мінскай мастацкай вучэльні, сярод студэнтаў карыстаўся велізарным аўтарытэтам; не палохаўся грамадскай працы ў Саюзе мастакоў. Але — жывапіс! Жывапіс быў заўсёды ў яго на першым плане, усё астатняе, у тым ліку і дом, і сям'я, і сябры, і ўсё іншае — адсоўвалася на потым...

А.Малішэўскі ў сваёй творчасці быў няўрымслівым жыццялюбам. Дысгармоніі жыцця ён супрацьстаўляў гармонію мастацтва, бедам — радасць чалавечага існавання, суровасці часу — цеплыню сваіх карцін.

Ужо па адной ягонай рэчы — "Маці" — разумееш: гэта быў гуманіст. Ягоны яскравы, прыязны, нібыта напітаны сонцам талент служыў людзям, іхнім спадзяванням і шчасцю.

Творчасць А.Малішэўскага рухомая, свавольная, нечаканая. Нават такія "банальныя" сюжэты, як апаратары МТЗ, Полацкі нафтаперагонны, будаўнікі Чыжоўкі і сям'я брыгадзіра, ён ператвараў у феерверкі фарбаў, жывую размову прыроды — у эфекты, што ствараюцца кантрастамі альбо гармоніяй колераў.

Здаецца, мастак забаўляўся, спалучаючы жоўтае з сінім, рудое з ліловым, чырвонае з зялёным, вохру з блакітным. Здаецца, ён гуляў у колеры, як дзеці гуляюць у кубікі. Гэтая "гульня" была ягоным жыццём. Малішэўскі даў новую ролю колеру ў жывапісе, выявіў ягоную самастойную каштоўнасць. Ён знайшоў для сваіх лепшых палотнаў найярчэйшыя фарбы, вырашыў найскладанейшыя каларыстычныя рэбусы. І калі аднаго з карыфееў Рэнесанса, які лічыў колер у карціне другарадным, а лінію — галоўным, прымаць у якасці полюса, дык Малішэўскі — полюс супрацьлеглы.


А.Малішэўскі. "Нацюрморт з кафейнікам".


А.Малішэўскі. "Мы вернемся". Палатно, алей.

Для сябе я ўпершыню адкрыўшы гэтага мастака ў карціне 1965 года "Мы вернемся". У той час гэта было адкрыццём у беларускім жывапісе: просты эпізод развітання салдата з хлопчыкам і сваім цяжкапараненым таварышам аўтар пластычнымі сродкамі ператварыў у высокую драму ваеннага часу.

Пошук і пошук — гэта быў адзін з прынцыпаў на ўсім ягоным творчым шляху. Ён казаў: "Далёка не заўсёды ўдаецца адразу зрабіць так, як думаеш ці плануеш. Часам адно і тое ж палатно значна трансфармуецца. Здаецца, усё зроблена, а чаканага выніку няма. Даводзіцца пачынаць зноў, і так не адзін раз..."

Шчыра кажучы, мне заўсёды былі больш блізкімі ягоныя пейзажы, нацюрморты і партрэты, хаця і ў жанры фігуратыўнай карціны ў яго былі бліскучыя дасягненні. Узгадваю ягонага "Нейрахірурга Секача" і "Медсястру", "Партрэт А.Кашкурэвіча" і "Партрэт Т.Лісоўскай", "Лес" і "Руская падносы"... Узгадваю, як Альгерт Адамавіч над імі цяжка працаваў, як шукаў кампазіцыю, перапісваў цэлыя кавалкі, пакутаваў, што "мазкі кепска адчуваюцца" — гэта значыла, што ў іх "занадта мала асабістага". Але затое, калі ставіў апошнюю "кропку" — быў задаволены... Таму што на палатне з'явілася пераможная матэрыя і колер знайшоў сваю форму!..

Вось такія думкі і ўспаміны абудзіла ўва мне выстава гэтага вялікага мастака. Наведайце яе абавязкова!

БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ І МУНІЦЫПАЛІТЭТ

МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РБ БЕЛАРУСКІ СТД І ЦЭНТР УНІМА

# БЕЛАЯ ВЕЖА 97



*Міжнародны фестываль "Белая Вежа" ў другі раз шчыра вітае ўсіх гасцей і ўдзельнікаў тэатральнага свята.*

*Спадзяемся, што гасцінная зямля Берасцейшчыны зноў прыхільна сустрэне Вас, а ўдзел у фестывалі прынясе Вам шмат новых уражанняў і дасць магутны штуршок Вашаму творчаму натхненню.*

*Перад тымі, хто ўзыходзіць на высокую Белую вежу, адкрываюцца шырокія, маляўнічыя і недасяжныя далягляды. Тэатральнае мастацтва падобна гэтаму ўзыходу: чым ён вышэй — тым больш шырокія і прыцягальныя перспектывы... Таму шчыра жадаем, каб фестываль "Белая Вежа" вызначыў яшчэ больш поўна і больш яскрава гэтыя напрамкі і дасягненні.*

*"Белая Вежа" — чарговая прыступка да тэатральнай гармоніі, своеасаблівы агляд творчых здабыткаў тэатраў розных краін. І Ваш непасрэдны ўдзел у Свяце — таму яскравае пацверджанне, Ваш важкі і адметны ўнёсак у гэтую пачэсную справу.*

**Аргкамітэт**

## "КУЛЬТУРА"

тэатральны спецвыпуск № 2

Згодна з традыцыямі, рэдакцыя газеты "Культура" падрыхтавала свой прыз для ўдзельнікаў фестывалю. Гэта акварэль знакамітага Леаніда Шчамялёва, народнага мастака Беларусі. Служыцелі Яго вялікасці Тэатра трымаюць у сваім уяўленні міфічную Сінюю птушку. А інакш і навошта? Мы абяцаем, што наш ультрамарынавы конь трапіць да самых рамантычных і шляхетных рыцараў сцэны.

Л. Шч. 97

# ЖЫВЕ "БЕЛАЯ ВЕЖА"!

***Міхась ШАВЕЛЬ,***
*дырэктар Брэсцкага тэатра лялек, прэзідэнт Беларускага цэнтра УНІМа.*



**— Міхась Аляксандравіч, калі ладзяць міжнародныя тэатральныя фэсты, у арганізатараў заўсёды існуе мэта: ці відовішча, ці камерцыя. "Белая Вежа" — да чаго далучаецца?**

— Не трэба шукаць тое, чаго там няма, бо там ёсць толькі тое, што ёсць! Зразумела, што канцэпцыя тэатральнага свята яшчэ не вызначана дасканала. Асабіста я — прыхільнік відовішча. Пагадзіцеся: "Белай Вежы" ўсяго толькі 2 гады і, нягледзячы на такі тэрмін, конкурсная праграма лялечнікаў у гэтым годзе — зорная. А ўрэшце, фестываль мае на мэце сустрэчу з гледачамі іншай краіны, прафесіяналы маюць магчымасць убачыць майстэрства іншых калектываў, што немалаважна для Яго вялікасці Акцёра. А горад? Трэба прызнаць, што спадар Козак, мой калега па пасадзе, калі "нарадзіў" гэтае свята і прыдумаў назву "Белая Вежа", у першую чаргу думаў пра свой горад і берасцейскага гледача. Прафесійны патэнцыял на гэты час у тутэйшых тэатрах у наяўнасці. Абодва: абласны тэатр драмы і музыкі і тэатр лялек — "жывыя". Я ўпэўнены, што не існуе паняцця "перыферыйнае мастацтва". Існуе толькі геаграфія. Доказам таму — аўстрыйскі фэст у Містэльбаху, тэатральны конкурс у Астраве (Славакія) і ў Францыі — "Шарлевіль — Міз'еры" — несталічныя тэатральныя фэсты, якія ведае ўвесь свет. У брэсцкага фэсту ёсць пэўны шанс трапіць у спіс прэстыжных тэатральных мерапрыемстваў свету. А інакш і навошта?

**— Ці ўдзельнічаў Брэсцкі тэатр лялек за апошні час у замежных конкурсных праграмах?**

А тры гады таму наш тэатр атрымаў афіцыйнае запрашэнне з Францыі, толькі з прычыны фінансавых цяжкасцяў не змаглі трапіць туды... З творчасцю нашага калектыву пазнаёмілася і калінінградская публіка падчас фестывалю "Ветразі надзеі".

Сімвалам Брэсцкага абласнога тэатра лялек стаў мілы і прывабны Буслік. У той час, калі тэатр толькі ствараўся (у 1968 г.), гэтая дзіўная птушка самотна кружляла ў небе і ёй было вельмі тужліва.

Цяпер пад ягонымі крылцамі, нібы пад надзейным і ўтульным дахам, лёгка жывецца і натхнёна працуецца ўсяму тэатральнаму калектыву.

Аб гэтым сведчыць і тое, што за гады свайго існавання тэатрам ажыццёўлена 78 пастановак, паказана звыш 12 тысяч спектакляў, якія паглядзелі больш за 4 мільёны гледачоў. Штогод тут адбываецца 3 — 4 прэм'еры, створаныя перш за ўсё на аснове сучаснай і класічнай нацыянальнай драматургіі, а таксама на лепшых узорах сусветнай літаратуры. Пошукі новых выразных сродкаў, спалучэнне розных плыняў мастацтва, смелы эксперымент — асноўныя рысы творчага пошуку тэатра.

А паколькі наш Буслік любіць пастаянна вандраваць, то й тэатр — пастянны ўдзельнік як усіх беларускіх, так і міжнародных фестываляў і святаў у Расіі, на Украіне, у Германіі.

**Жанна ВАСАНСКАЯ.**



***Аляксандр КОЗАК,***
*дырэктар Брэсцкага тэатра драмы і музыкі*

**— Ці патрэбны фестываль гораду і што паўплывала на вас як на стваральніка фестывалю "Белая вежа" і аўтара ягонай назвы?**

— Самаму заходняму гораду Беларусі грэх не мець міжнароднага форуму. Брэсцкі глядач — адукаваны і вопытны, таму прагне сапраўдных культурных падзей. Цывілізаваны свет даўно зрабіў выснову, што вялікія святы ў сферы культуры нараджаюцца не толькі ў сталіцы. Вядома ж, цяжка ў другі раз наладжваць міжнародны тэатральны фестываль, дзе ты сам "і шавец, і кравец, і на дудзе ігрэц", але сярод калег і землякоў у мяне ёсць аднадумцы. Не сакрэт, што акцёра падсілкоўвае дух спаборніцтва, калі ён можа не толькі прадэманстраваць сваё рамяство і творчасць, але і пабачыць працу калег-супернікаў. Як дырэктару мне не сорамна запрасіць гасцей у новы будынак тэатра, што выглядае цяпер па-сучаснаму. Я ўпэўнены, што знаўцы тэатральнага мастацтва пагодзяцца са мной: трупа нашага тэатра на сённяшні дзень склалася як цэласны арганізм, хаця мяне засмучае тое, што дасюль у нас няма лідэра — галоўнага рэжысёра. Але гэта, як кажуць, праблемы дзяржаўнага ўзроўню.

**— Якія сюрпрызы-нечаканасці падрыхтаваў нам сёлетні фестываль?**

— Шчыра кажучы, сюрпрызы падрыхтавала нам сталіца. Мабыць, з прычыны халоднага восеньскага надвор'я Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я.Купалы ў апошні момант адмовіўся паказаць на фестывалі спектакль паводле п'есы Аляксея Дударава "Князь Вітаўт". А шкада... Але ж наш стары знаёмы, мінскі тэатр-лабараторыя "Вольная сцэна" пад кіраўніцтвам майго былога аднакурсніка Валерыя Мазынскага дапамог нам: брэсцкі глядач убачыць гістарычнае сцэнічнае палатно, ужо шырока вядомае ў тэатральных колах у нас і за мяжой, — "Рычард..."

**— Традыцыйна арганізатары фестываляў скардзяцца журналістам на нястачу фінансавых сродкаў. А як вы выходзіце з гэтага становішча?**

— Калі я пачну праліваць слязу над кожнай капейчынай, якіх у культуры вечна нестае, дык нумара вашай газеты наўрад ці хопіць, каб распавесці пра ўсё. Гарадскія і абласныя ўладныя структуры, прадпрыемствы кінуліся, нібыта на абарону крэпасці, дапамагчы міжнароднаму фестывалю выжыць. Муніцыпалітэт горада размеркаваў выдаткі на ўтрыманне гасцей фестывалю паміж прадпрыемствамі. Міністэрства культуры таксама не засталося ў баку: будуць наладжаны "круглыя сталы" з удзелам вядомых крытыкаў, а таксама святочнае выданне газеты "Культура", спецыяльна прымеркаванае да нашага фестывалю, і фінансавая дапамога.

**— І напрыканцы хацелася б папытацца: якімі бачацца вам перспектывы міжнароднага тэатральнага фэсту?**

— Па-першае, я хачу захаваць традыцыю паказваць спектаклі ля сцен Белай вежы. Па-другое, разам з дырэктарам тэатра лялек Міхасём Шавялём мы мяркуем у будучым усё ж такі акрэсліць больш дакладна канцэпцыю фестывалю, бо задумваўся ён як свята авангарднага тэатральнага мастацтва. Я мару пра тое, каб на фестывалі можна было ўбачыць п'есы Бекета, Арто і, спадзяюся, маладых прадстаўнікоў беларускай драматургіі.

**Дзіна КІРЫЛАВА**



*Аляксей ДУДАРАЎ, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў*

**— На Беларусі тэатральны рух пашыраецца, у нас ёсць 2 міжнародныя фестывалі — Славянскія тэатральныя сустрэчы ў Гомелі, "Белая Вежа" ў Брэсце і адзін рэспубліканскі — "Маладзечанская сакавіца". Наколькі мы вядомыя за мяжой?**

— Хацелася б, каб ведалі больш і лепш. Калі раней уплывала палітыка — проста не выпускалі, то цяпер гэтага няма. У нас наладжаны добрыя кантакты, мы маем інфармацыю аб усіх міжнародных фестывалях, дзе нас гатовыя прыняць і ўтрымліваць. Адзінае, што прынята ў сусветнай практыцы, трэба самім туды даехаць, але нават каб аднаму даехаць да той жа Карэі, трэба мець цэлае багацце па нашых мерках. Але з дапамогай Міністэрства культуры тэатральныя вяжы ўсё ж адбываюцца.

Ну, а наконт тэатральнага руху, дык гэта хутчэй фестывальны рух. Фестывалі праходзілі і раней, але ў іх не было сістэмы, характару як фестываляў, адметнасцей. А калі з'явіліся Тэатральныя сустрэчы і "Маладзечанская сакавіца", іншыя гарады, наколькі мне вядома, пачалі па-добраму зайздросціць. І той жа Брэст зрабіў усё магчымае, каб у мінулым годзе ўпершыню прайшоў фестываль "Белая Вежа". І можа, прайшоў ён з нейкімі хібамі, гэта можна зразумець, але сёлета ён, спадзяюся, пройдзе лепш: па-першае, вопыт ужо ёсць, па-другое, так склалася — ёсць што паказаць больш цікавага і свежага, чым летась.

**— Ці не адчуваеце вы ўжо цяпер, што на фестываль "Белая Вежа" лялечная праграма прадстаўлена больш моцная, чым драматычная, напрыклад, у Беластоцкім, Омскім тэатрах?**

— Гэта ўжо паглядзім на фестывалі. Мне так не здаецца. Але нічога страшнага не будзе, калі нават "лялькі" будуць вышэй за артыстаў. Тады нейкія высновы зробяць і артысты, і "лялькі". Я заўсёды спакойна стаўлюся да ўзроўню фестывалю, калі толькі гэта не недапрацоўкі арганізатараў. Бо ўсё цікавае, што ёсць на Беларусі ў тэатральным мастацтве, трапляе на фестывалі. Мы самі ў гэтым зацікаўлены. Але крыўд заўсёды ёсць нямала. Чаму, напрыклад, на фестываль не трапіў тэатр з горада Н.? Таму, што тэатр з горада Н. мае недастатковы ўзровень.

**— Якія будуць прызы на фестывалі "Белая Вежа"?**

— Прызы будуць за лепшую жаночую ролю, за лепшую мужчынскую ролю і за лепшы спектакль. Акрамя гэтага, кожны дзень гледачы будуць вызначаць лепшых выканаўцаў мужчынскай і жаночай ролі. Увогуле, я падтрымліваю ініцыятыву Аляксандра Козака, яго імкненне, бо ў Брэсце сапраўды ёсць дзе развярнуцца. У мінулым годзе ля Белай вежы ставілі "Макбета", і яго ўспрынялі з такім захапленнем, узнёсласцю, А вось уявіце спектакль у Брэсцкай крэпасці... Ён можа быць і ваенным, і гістарычным. Гэтыя натуральныя "дэкарацыі" дапамагаюць акцёрам інакш сябе адчуваць, касцюмы нават іншымі робяцца... Я жадаю "Белай Вежы", каб яна з кожным годам была ўсё бялей і бялей.

**Міхась БАШУРА**

***Вацлаў Валадзько,***
*галоўны рэдактар аддзела тэатраў Міністэрства культуры .*

**— Вацлаў Браніслававіч, якое месца сярод тэатральных фестываляў займае "Белая Вежа"? І ў чым роль Міністэрства культуры падчас яго правядзення?**

— Мяркую, што ўжо сама назва — "Міжнародны тэатральны фестываль "Белая Вежа" як бы вызначае яго накіраванасць і ролю сярод шэрагу тэатральных святаў, што рэгулярна праходзяць на Беларусі.

Гэты фестываль, як вядома, праводзіцца толькі другі раз, пакуль ён яшчэ набірае сілу, толькі пачынае заваёўваць сабе аўтарытэт, і таму казаць сёння, якое месца ён заняў ці зойме, трошкі ранавата.

Аднак у фестываля ёсць усе падставы стаць адметнай мастацкай з'явай у нашым жыцці, заявіць аб сабе ярка, моцна, непадобна на ўжо існуючыя тэатральныя святы. Гэтаму спрыяюць як творчыя задумы яго арганізатараў, так і многія іншыя фактары.

Вазьміце хаця б самое месца правядзення фестывалю —Брэст. Побач з ім, ці зусім непадалёку, — Польшча, Украіна, Літва, Расія, не за гарамі, як гаворыцца, Германія з якой усё больш мацнеюць нашыя тэатральныя сувязі. Тэатральны фестываль "Белая Вежа" практычна ладзіцца ў самым цэнтры Еўропы, і гэта адкрывае вялікія магчымасці для пастаяннага творчага ўзаемаабмену. Дарэчы, усе названыя вышэй краіны якраз і прадстаўлены ў афішы фестывалю.



Аднак, асноўнае, без чаго не адбылося б ні мінулае, ні сёлетняе свята, гэта яго галоўныя арганізатары —Брэсцкія аблвыканкам, гарвыканкам, мясцовыя тэатр драмы і музыкі, тэатр лялек, іх вялікі энтузіязм, шчырая зацікаўленасць у гэтай справе. І калі на закрыцці мінулага фестывалю ўладныя структуры Брэстчыны прынародна абвясцілі, што "Белая Вежа" будзе жыць і мець свой працяг у наступным годзе, гэта, зразумела, вельмі ўзрадавала ўсіх аматараў тэатральнага мастацтва, бо сёння такія падыходы праяўляюцца з боку улад рэдка.

Што тычыцца Міністэрства культуры, то яно па магчымасці заўсёды падтрымлівае ўсе перспектыўныя творчыя з'явы, а ў гэтым выпадку выступае ў ролі аднаго з заснавальнікаў фестывалю.

**— Канцэпцыя фестывалю — ці былі ў ёй змены?**

— Некалькі слоў аб творчых задумах арганізатараў фестывалю, ці, як вы гаворыце, яго канцэпцыі. Планавалася, што конкурсную праграму фестывалю будуць складаць спектаклі так званага тэатральнага авангарда, тыя пастаноўкі, якія вызначаюцца актыўным пошукам у галіне распрацоўкі новай тэатральнай выразнасці. Побач з імі — фестывальнае кола спектакляў, якія складаюць пазаконкурсны паказ.

Аднак канцэпцыя, як кажуць, у галаве, а да яе поўнай рэалізацыі падысці мы пакуль што не змаглі з-за шэрагу розных праблем. Карацей кажучы, на мой погляд, неабходна сур'ёзна ўдасканальваць нашу сістэму адбору спектакляў на фестываль, і тут ёсць добрыя аналагі сусветнай практыкі. У гэтай сувязі хацеў бы прывесці ў прыклад Міжнародны тэатральны фестываль "Кантакт", які штогод праводзіцца ў польскім горадзе Торунь. Каб сфарміраваць яго афішу, тэатралы з Таруні аб'язджаюць амаль што не ўвесь свет і адбіраюць не проста высакакласныя спектаклі, але яшчэ і тыя, што адпавядаюць канцэпцыі фестывалю. Міжнародная тэатральная імпрэза ў Таруні набыла вялікую прэстыжнасць у свеце, яе не зблытаеш ні з якім іншым фестывалем. Мяркую, што больш акрэсленае, адметнае творчае аблічча павінна набываць і наша "Белая Вежа".

**— Каб запрасіць вядомых акцёраў, патрэбны немалыя грошы. Чыйго прыезду мы чакаем?**

— Заўсёды ёсць вялікае жаданне запрасіць лепшых акцёраў, лепшыя тэатры, але на гэта сапраўды патрэбны немалыя сродкі. На жаль, іх не хапае.

У гэтым годзе мы запрасілі Маскоўскі тэатр пад кіраўніцтвам Алега Табакова. У Брэсце знайшліся спонсары, якія выдзелілі для гэтага немалыя грошы. Але ў апошні момант жыццё скарэктавала планы тэатра А.Табакова, і, на жаль, яго не будзе ў нас.

Аднак хачу адразу заспакоіць — без зорак фестываль не застанецца. Вельмі чакаем на наша свята тэатр "Вайдалас" з Вільнюса і яго выдатных майстроў, артыстаў з Люблінскага тэатра імя Ю.Астэрвы, Малады тэатр з Кіева, які сёлетняй вясной вельмі ўразіў гледачоў на фестывалі ў Гомелі. Гасцей шмат. Акрамя названых вышэй будуць тэатры з Расіі, Балгарыі, Аўстрыі, Манголіі. Ну, а разам з імі — калектывы і зоркі беларускай сцэны, сярод якіх вядомыя артысты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы, Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя М.Горкага, Гомельскага драматычнага тэатра, майстры лялечнага мастацтва з Мінска, Гродна, самога Брэста.

**— Чым выклікана ўключэнне ў адзін фестываль драматычных і лялечных тэатраў?**

— Кожны фестываль, акрамя ўласна конкурсных спраў і той асалоды, якую атрымліваюць ад яго спецыялісты, гэта яшчэ свята ў горадзе. У дадзеным выпадку — тэатральнае свята Брэста, яго жыхароў. Тут ёсць два тэатры — драмы і музыкі і лялечны, і было б незразумела, калі б у ім адзін з іх не ўдзельнічаў... Тым больш, што драматычнае і лялечнае мастацтва ў многім збліжаецца: сённяшні лялечны — гэта не толькі акцёр за шырмай, але і акцёр перад шырмай, які працуе на сцэне "ў жывым выглядзе".

**— Хто ж усё-такі, на ваш погляд, задае тон фестывалю?**

— Хто задасць тон фестывалю — можа паказаць толькі сам фестываль. Робяць гэта, як вядома, толькі спектаклі высокай якасці. Спадзяемся, што на "Белай Вежы-97" будзе не адна пастаноўка, якая стане сапраўднай з'явай, задасць тон і ўздыме мастацкую "планку" фестывалю. Маем надзею на многія тэатры, але пакуль што не хачу нікога выдзяляць, таму што пры ўсіх недахопах фестывальную праграму складаюць цікавыя спектаклі.

**Алена РЫЖЫКАВА**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА.**



# ТЭАТР МАЙГО ГОРАДА

Тэатр нясе на сабе адбітак часу, гісторыі дзяржавы і найчасцей вымушаны служыць пануючай сістэме ўлады, выконваць яе ідэалагічную замову, дакладней, сама ўлада стараецца ствараць такі тэатр, які б адпавядаў яе патрабаванням.

Першая спроба адкрыць у Брэсце рускі і яўрэйскі прафесійныя тэатры рабілася адразу пасля далучэння Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза. Рашэннем бюро абкама КП(б)Б ад 2 снежня 1939 г. меркавалася "ўкамплектаваць калектыў артыстаў і мастацкае кіраўніцтва, максімальна выкарыстаўшы мясцовыя артыстычныя сілы". Рускі тэатр павінен быў размясціцца ў будынку клуба "Свет", а яўрэйскі — у тэатры Сарвера. Пра яўрэйскі тэатр больш ніякіх звестак няма, а пра рускі сведчаць дакументы архіва.

Абласная газета "Зара" (тады выдавалася на беларускай мове) 22 лістапада 1940 года паведамляла, што Брэсцкаму рускаму драматычнаму тэатру патрабуецца касіррахункавод, сакратар-машыністка, рабочыя сцэны, мэбельшчыкі, бутафоры, загадчык грыміровачнага цэха, майстар-цырульнік, акцёры дапаможнага складу.

На жаль, ніводнага прозвішча акцёраў у архіве знайсці не давялося. Згадваецца толькі адна работніца тэатра, якая выступала на першай гарадской партканферэнцыі 14 кастрычніка 1940 г. і скардзілася, што ў свой час уключылі ў трупу некваліфікаваных артыстаў-бежанцаў, на якіх патрацілі шмат сродкаў, а цяпер вымушаны ад іх вызваляцца.

Нагадаю чытачам, што ўвосень 1939 года пачалася другая сусветная вайна, і ў Брэст хлынулі бежанцы з Заходняй Еўропы. Гэтым людзям патрэбны былі праца і жытло, пэўна, з іх ліку спачатку і набіралася трупа.

У кнізе "Гады, спектаклі, ролі..." былы дырэктар тэатра ў пасляваенны час Л.Валчэцкі пра калектыў першапачатковага рускага тэатра ў Брэсце піша так: "Трупу яго ўтварыў выпуск ГІТИСа. І чые былі вучні, будучыя брэсцкія артысты — тарханаўскія! Так, М.Тарханаў, па духоўным змесце сваім мхатавец, быў настаўнікам таго калектыву.

Сустрэць калектыў прыехаў у Маскву саракавога года начальнік Брэсцкага абласнога аддзела мастацтваў (па сумяшчальніцтву дырэктар пакуль толькі праектуемага тэатра) П.Абросімаў. І візітнай карткай трупы былі... Горкаўскія "Мяшчане".

У артыкуле "Рамантыка сцэны" ("Народная трыбуна", 1 кастрычніка 1994 г.) Н.Стэльмах піша, што рускі драматычны тэатр пачаў працаваць у Брэсце з восені 1940 г., паставіў п'есы "Мяшчане" М. Горкага і "Любоў Яравую" Л.Транёва, гастраляваў у Беластоку і Гродне.

Абкамам партыі зацвярджаўся рэпертуарны план і на 1941 г., складаўся ён з трох спектакляў па п'есах "Небяспечны паварот" Э.Прыстлі, "Слава" В.Гусева, "Самадур" К.Гальдоні.

Але мірнае жыццё было абарвана вайной, у чэрвені 1941 г. тэатр быў на гастролях у Пінску, потым артыстаў чакалі франтавыя дарогі.

* * *

Архіўныя дакументы сведчаць, што 9 кастрычніка 1944 г. была прынята пастанова СНК БССР № 656 аб стварэнні ў Брэсце Дзяржаўнага тэатра юнага гледача імя Крупскай. У першай палове 1945 г. тэатр атрымаў іншую назву: Дзяржаўны тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі.

13 кастрычніка 1945 г. у Брэст прыехалі выпускнікі Маскоўскага гарадскога тэатральнага вучылішча, выхаванцы педагогаў У.Гатоўцава, М.Свабодзіна, М.Цітушына. Пра тое, як акцёры абжываліся на новым месцы, добра апавядае Л.Валчэцкі ў сваёй кнізе "Гады, спектаклі, ролі..."

Мастацкім кіраўніком новага маладзёжнага тэатра прызначылі таленавітага беларускага рэжысёра М.Міцкевіча. Яго рэпетыцыі збіралі амаль усю трупу, акцёры, вольныя ад спектакляў, прыходзілі, каб прысутнічаць і пераймаць майстэрства.

Пра тое, як улада клапацілася пра ідэалагічную чысціню тэатра, сведчыць сакрэтны дадатак да загада ад 16 верасня 1946 г., які забараніў ставіць наступныя п'есы: "Хто смяецца апошнім" К.Крапівы, "Заложнікі" А.Кучара, "Дрымучае сэрца" В.Ліпатава, "Брандэнбургскія вароты" М.Святлова і шмат іншых.

У гэты час у тэатры працуюць самабытныя рэжысёры Ю.Рашымаў, А.Міронскі, Ю.Арынянскі, якія імкнуцца аб'яднаць творчыя сілы, вызначыць накірунак будучай працы.

Тагачасны тэатр у Брэсце вызначала героіка-рамантычная тэматыка: "Маладая гвардыя" паводле А.Фадзеева, "Ірынка" К.Чорнага, "Як гартавалася сталь" паводле М.Астроўскага, "Канстанцін Заслонаў" А.Маўзона, "Авадзень" паводле Войніч і іншыя.

Сапраўдным творчым узлётам для трупы была праца над стварэннем спектакля "Брэсцкая крэпасць" па п'есе Губарэвіча. Прэм'ерныя спектаклі адбыліся 19, 20 і 21 сакавіка 1953 г. і прайшлі з велізарным поспехам. У 1960 г. ён быў паказаны ў Маскве, станоўчыя рэцэнзіі пра яго змясцілі "Литературная газета", часопіс "Театр", іншыя цэнтральныя і рэспубліканскія выданні.

Спектакль "Брэсцкая крэпасць" прайшоў 900 разоў. Гэта па сутнасці рэкорд для тэатра. У 1967 г. спектакль быў узнагароджаны усесаюзнай прэміяй Ленінскага камсамола.

З 1963 да 1968 г. пры тэатры працавала група лялечнікаў, на базе якой быў утвораны асобны тэатр.

У наступным дзесяцігоддзі да трупы далучылася новая хваля моладзі, пераважна выпускнікоў Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута: рэжысёр Т.Белічэнка, акцёры А.Гаманюк, М.Мятліцкі, А.Козак, М.Перапечка, Т.Ляўчук, Т.Майсеенка, Л.Сінельнік і іншыя.

У Брэсцкім тэатры існавала добрая школа выхавання моладзі. Старэйшыя акцёры апекавалі моладзь, дапамагалі набыць прафесіяналізм, упэўненасць у сваіх сілах. Нявопытным, але адораным акцёрам даверялі вялікія і адказныя ролі. І гэта дазваляла моладзі хутчэй адчуць сябе сапраўднымі творцамі, адказнымі не толькі за сябе, але і за ўсю трупу, за ўсё сусветнае мастацтва. Тым больш што тэатр меў шырокія стасункі з тэатрамі суседніх рэспублік і Польшчы. З 1968 г. Брэсцкі тэатр творча супрацоўнічае з Люблінскім тэатрам, адбываюцца абмены гастролямі і пастаноўкамі. Народны артыст Беларусі Г.Волкаў паставіў у Люблінскім тэатры п'есу "Месяц у вёсцы" Тургенева, заслужаны артыст Беларусі Еўдашэнка — "Неспакойную старасць" Рахманава і "А зоры тут ціхія..." Васільева. Польскі рэжысёр Ю.Ясельскі здзейсніў у Брэсце пастаноўку п'есы Хаінскага "Начная аповесць".

Варта нагадаць, што ў розныя часы ў тэатры драмы працавалі такія вядомыя творцы, як народны артыст СССР Я.Палосін, народныя артысты Беларусі А.Логінаў, Г.Волкаў, Т.Заранок, І.Папоў.

За паўстагоддзя тэатрам здзейснена пастаноўка 380 п'ес, паказана болей за 25000 спектакляў, якія паглядзелі болей за 14 мільёнаў гледачоў. Уся праца за пяцьдзесят гадоў з'яўляецца вынікам творчых высілкаў 150 акцёраў, рэжысёраў, мастакоў, кампазітараў.

# КАЦЯРЫНА II У БРЭСЦЕ

*Новы спектакль заўсёды нараджаецца цяжка. Па-першае, таму, што ў моры п'ес трэба выбраць адзіную, якая б адлюстроўвала сённяшні дзень, па-другое, знайсці рэжысёра, творчы напрамак якога супадаў бы з патэнцыялам дадзенай трупы.*

*У калектыве Брэсцкага тэатра драмы і музыкі нарадзіліся творчыя сувязі з рэжысёрам Вітаўтасам Грыгалюнасам, які ўжо ў гэтым сезоне паставіў спектакль "Перад заходам сонца", а потым прапанаваў тэатру п'есу Аляксея Канстанцінавіча Талстога "Каханне — кніга залатая". Наш карэспандэнт сустрэўся і пагутарыў з рэжысёрам аб будучым спектаклі, прэ'мера якога чакаецца падчас фестывалю "Белая Вежа".*

**— Вітаўтас, чаму вы спынілі свой выбар менавіта на гэтай п'есе?**

— З-за майго кахання да яе. П'еса прывабіла мяне сваёй вытанчанасцю, нечаканым ходам падзей, канвой фабулы. У ёй адчуваецца цяга да рамантызму і высокіх пачуццяў. Мяркую, што менавіта такая драматургія патрэбна сёння Брэсцкаму тэатру драмы і музыкі. Паколькі цяпер у трупе з'явіліся маладыя парасткі, якія прагнуць творчасці.

**— Што гэта за спектакль?**

— Безумоўна вадэвіль, запоўнены музыкай, пластыкай, светам любові. Мне падаецца, што сённяшні глядач сумуе менавіта па гэтым жанры. А тут такая незвычайная драматургія: шмат гумару, гульні, і раптам, у



гэтым асяроддзі ўзнікае гістарычны персанаж — імператрыца Кацярына II. Гэты вобраз нясе на сабе адбітак сур'ёзнасці, дзяржаўнасці. Ствараецца ўражанне, што апавяданне нібы з'яўляецца казкай, у якой ёсць пэўны намёк. Сюжэт трымаецца на трох лініях, якія па-майстэрску зліваюцца ў палатно камічных і лірычных хітраспляценняў. Хаця імператрыца і глядзіць нібы збоку, яна адначасова з'яўляецца актыўнай удзельніцай любоўнага трохкутніка.

**— Вядома, што існуе дзве версіі п'есы, у якіх вобраз Кацярыны па-рознаму трактуецца. Які варыянт ажыццявілі вы?**

— У першай версіі Кацярына, жорсткая і ўладная жанчына, недаруе закаханасці свайго юнага фаварыта. Я выкарыстаў другі варыянт са шчаслівым фіналам.

**— Вітаўтас, апошнімі часам прадстаўнікі мас-медыя зрэдку ўзгадваюць вашае імя. Раскажыце крыху пра сябе.**

— Дыплом рэжысёра атрымаў я ў Мінску. Пасля заканчэння інстытута стажыраваўся ў вядомых мэтраў тэатра Мельцініса і Додзіна, што для мяне было значнай падзеяй. Падчас вучобы кіраваў драматычнай студыяй, падчас перабудовы наш калектыў перайшоў на гаспадарчы разлік. Прынамсі, акцёры там былі аматары, без адукацыі. Калі прыйшоў першы поспех, адразу стварылі Альтэрнатыўны тэатр, куды прыйшлі прафесіяналы. Год таму гэты тэатр скончыў сваё існаванне з нагоды пэўных абставін. Па нацыянальнасці я літовец, але жыву ў Мінску вось ужо 28 гадоў, і да гэтай зямлі я прывязаны. Зразумела, хачу паспытаць шчасця яшчэ раз — ствараць свой тэатр. Калі не здолею, магчыма, з'еду ў Літву, дзе зараз, на мой погляд, лепшыя ўмовы для творчай інтэлігенцыі. Леташні тэатральны сезон быў для мяне працоўным. Акрамя спектакля "Перад заходам сонца" я здзейсніў пастаноўку "Аварыя" па п'есе Ф. Дзюрэнмата. Гэта была цікавая праца, бо ў спектаклі заняты знакамітыя акцёры: Ромас Урвіс, Данатас Баніёніс. З маладзёжнай трупай паставіў оперу Бетховена "Ісус Хрыстос на Елеонскай гары" ў Каўнасе. У гэтым сезоне збіраюся папрацаваць у Паневежысе над сцэнічным творам Нормана "Добрай ночы, мама", дзе галоўную ролю будзе выконваць выдатная актрыса Рэгіна Меленайтэ. Увогуле я паставіў 31 спектакль, хаця да гэтай пары хаджу ў малодых рэжысёрах.

**— Якія вашыя ўражанні пасля працы з брэсцкім калектывам?**

— Мне падабаюцца артысты, тэатр жывы. З такой трупай можна шмат цікавых сцэнічных палотнаў стварыць. Тым больш, што я адношу сябе да тых рэжысёраў, якіх больш турбуе творчы працэс, чым вынік. Мне падабаецца Брэсцкі тэатр драмы і музыкі.

**Зінаіда ДУДЗЮК**
**Фота Эдуарда КАБЯКА**







батлейку. Устойлівасць уяўленняў аб знакамітым сюжэце, што складаўся стагоддзямі, падкрэслена статыкай лялек у прасторы. Батлейкі змяняюць адна адну, рухаюцца толькі па гарызанталі, як быццам перагортваюцца старонкі кніжнай ілюстрацыі. Узнёсла-святочную інтанацыю ўносіць цудоўная музыка У.Кандрусевіча. Адраджаецца не толькі батлеечнае прадстаўленне ў дадзеным выпадку, але і забытае рэлігійнае свята. Праўда, і паказвацца яно павінна, мусіць, у пэўны час — на Каляды, каб не стаць дэкаратыўным рэстаўратарскім экспанатам.

Але шлях стылізацыі як самастойнай мастацкай мэты хутка вычарпаўся. Старажытная форма, пазбаўленая натуральнага кантэксту, замыкалася на сябе. Стылізаваны спектакль набываў рысы штучнасці, сувенірнасці. Беларускі тэатр у засваенні батлейкі прайшоў шляхам ад чыстай стылізацыі да фантазіі на тэму і нарэшце да скарыстання батлейкі як варыянта прасторавага рашэння спектакля з характарнай сімволікай верху-нізу, але неабавязкова з сюжэтам аб нараджэнні Ісуса Хрыста. Батлейка пранікла і на драматычную сцэну. Адзін з лепшых спектакляў Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы — "Тутэйшыя" ў пастаноўцы М.Пінігіна — стаў змястоўным дыялогам з традыцыйнай формай. Батлейка скарыстана як аснова арыгінальнага сцэнаграфічнага вобраза і нетрадыцыйнага спосабу акцёрскага існавання. Яна адрывалася ад традыцыйнага зместу каляднай драмы. Стыль пастаноўкі адштурхоўваўся ад эстэтыкі батлейкі і перагукаўся з адкрытай плакатнасцю і масачнасцю тэатра 20-х гадоў — калі была створана доўгі час забароненая п'еса Я.Купалы.

Беларускія лялечнікі прадэманстравалі магчымыя варыянты батлеечных прадстаўленняў, умудрыліся нават Андэрсена сыграць у батлеечнай скрыні ("Дзікія лебедзі", Маладзечна), а затым паспрабавалі пашырыць плынь беларускай гістарычнай культурнай перспектывы. Так, у 90-я гады з'яўляецца адзін з самых выдатных, па-мастацку зграбных спектакляў апошніх гадоў — "Загубленая душа, альбо Пакаранне грэшніка" па творах Яна Баршчэўскага (рэжысёр А.Жугжда, Віцебск). На гэты раз побач з батлейкай існуе жанр маралітэ і антураж ландшафтнага магнацкага тэатра. Дыдактычная гісторыя аб пагубнай страсці да багацця, беларускі варыянт фаўстаўскай тэмы пра расчараванага пана Альберта, што прадаў душу д'яблу, разыгрываецца як марыянетачнае прадстаўленне з букетам сцэнічных эфектаў кшталту з'яўлення Д'ябла ў трох абліччах, танца ажываючых статуй у Палацы Альберта ці вальпургіевай ночы з магільнымі прывідамі і пачварамі. Гэтую гісторыю паказваюць шкаляры езуіцкага калегіума, забаўляючы гледачоў у інтэрмедыях, каменціруюць дзеянне.

Пераапранутыя ў атласнае тэатральнае адзенне "шкаляры" выступаюць у "дэкарацыях" магнацкага тэатра ля акуратнага кола стаўка (паводле старажытнай традыцыі ў спектаклі занята толькі мужчынская палова трупы). Маляўнічыя, рухомыя заднікі батлейкавага прадстаўлення стылёва перагукаюцца з пышным зеленавата-палевым ландшафтам вялікай сцэны. Тэатральная мова гэтага спектакля — матрошка: у ім нанізваюцца, сумяшчаюцца некалькі стыляў і старадаўніх тэатральных форм. Але сюжэт яго пераказваць нецікава — ён застаецца ў рэчышчы дыдактыкі. Калекцыям марыянетак гэтага відовішча (мастак А.Сідараў) практычна непатрэбны тэкст, настолькі яны выразныя, самадастатковыя. Сэнс узнікае ад адной іх прысутнасці, жывапіснага кантрапункта з дэкаратыўным асяроддзем. Лялькі дзеляцца на тры групы: рамантычныя, характарна-сатырычныя і гатычныя — што нібы спусціліся з карцін Босха ці Селешчука. Спектакль цікавы перадусім гульнёй мастацкімі стылямі, "слаістым пірагом" культуры.

Але нашы вочы, звыклыя чытаць "археалагічны-культурны слой" спектакляў, стомленыя мазаічнай стракатасцю сучасных твораў, прагнуць "чыстага" наіўнага стылю. І зноў першапраходцам становіцца А.Жугжда. Адкрыццём III Міжнароднага фестывалю тэатраў лялек стаў ягоны магілёўскі спектакль "Піліпка і Ведзьма" (мастак Л.Мікіна), які зроблены ў адмысловай філіграннай тэхніцы ценявога тэатра накшталт старажытнага жлоба, спалучанага з мастацтвам народнай выцінанкі. "Выцінанка (а яшчэ кажуць: "выстрыганка" ці "выразанка") — гэта ажурны ўзор, выразаны з белай, чорнай ці каляровай паперы. Гэты ўзор складваўся з раслінных і геаметрычных арнаментаў, з фігурак жывёл, птушак і людзей. Калісьці, у старажытны час, выцінанкамі беларусы ўпрыгожвалі сваё жытло: вешалі іх на вокны, як фіранкі, слалі на палічкі, аздаблялі сцены... "Каб глядзелася прыгажэй, ды жылося весялей!"

Спектакль вылучаецца мастацкім густам, зграбнай формай, тонка выкарыстанай фактурай і новай тэхнікай. Аканіцы з драўлянымі гусямі расчыняе казачніца, і на марозным узорным шкле экрана ажывае чорная графіка выцінанак. Возера "дыхае", фігуркі кемлівага Піліпкі, злой Ведзьмы і дурня Каваля рухаюцца. Казачніца ўступае ў дыялог то з імі, то з намі, гледачамі, ствараючы ўтульную хатнюю атмасферу. Праўда, у фінале стваральнікі спектакля парушаюць чысціню стылю, і як у калядных снах, прапануюць некалькі эфектаў: то Піліпка раптам паляцеў нібы ў каляровым самаробным мульціку, то за аканіцамі адкрыўся не ўзор экрана, а аб'ёмны бела-блакітны зімовы пейзаж. І наша ўпадабаная казачніца крочыла ў іншую прастору вымярэння, стаўшы лялькай. Прапанаваная новая ідэя сапраўды можа стаць асновай невядомай галіны развіцця беларускага лялечнага тэатра, які дагэтуль амаль што не ведаў тэхнікі ценявой сцэны.

Такім чынам, сёння беларускі тэатр "адкрыты" ў розную часавую прастору, не толькі ў будучыню, але і ў мінулае. І часта, менавіта там, у глыбіні стагоддзяў, ён знаходзіць крыніцы для новых творчых ідэй.

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ**







# *Людзі, ільвы, арлы і курапаткі... — усе на фестываль "БЕЛАЯ ВЕЖА"!*

НАД СПЕЦЫЯЛЬНЫМ ВЫПУСКАМ ПРАЦАВАЛІ:


Анюта ЦЯРЭНЦЬЕВА


Наталля ОВАД
Жанна ВАСАНСКАЯ


Уладзімір МАЛЬЦАЎ


Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ


Віктар ДНЯПРОЎСКІ

За дапамогу ў пошуках інфармацыі рэдакцыя выказвае шчырую падзяку шаноўным дырэктарам Брэсцкіх тэатраў — А.КОЗАКУ і М.ШАВЕЛЮ.

# "ВІЦЕБСКАЯ АКВАРЭЛЬ"


Ф.Гумен. "Нацюрморт".

закладзены яе "бацькамі" — І.Сталяровым, Ф.Гуменам, Г.Шутавым, В.Ральцэвічам і іншымі, даўно вядома не толькі ў нашай краіне.

Выставы віцебскіх акварэлістаў з вялікай цікавасцю былі сустрэты ў Мінску і Рызе, у нямецкіх гарадах Франкфурце-на-Майне і Вецлеры.

Я папытаўся ў старшыні творчага аб'яднання "Віцебская акварэль" Міхаіла Ляўковіча, якія задачы стаяць перад гэтай суполкай.

— Арганізацыя і прапаганда выстаў у рэспубліцы і за мяжой; афармленне і транспарціроўка твораў; творчыя і арганізацыйныя кантакты з прыватнымі і дзяржаўнымі карціннымі галерэямі і музеямі; продаж твораў. І, безумоўна, творчая і маральная падтрымка адзін аднаго. І матэрыяльная таксама. Хаця з апошняй у наш час праблем хапае. Але мы працуем і будзем працаваць. Дзеля мастацтва...


А.Капран. "Нацюрморт ва ўсходнім стылі".


У.Іваноў. "Цішыня".


А.Кастагрыз. "Вялікая вада".


Старшыня суполкі "Віцебская акварэль" Міхаіл Ляўковіч.

Фота Генадзя ЖЫНКОВА


Г.Шутаў. "У засені высахлых сланечнікаў".

# ШПАЦЫР ПА РАІ ЗЯМНЫМ...

***Напярэдадні юбілею Людмілы ПЕТРУЛЬ наш карэспандэнт сустрэўся з гэтай таленавітай і своеасаблівай мастачкай і папрасіў яе адказаць на некалькі пытанняў.***


Людміла Петруль.

**— Люда, ці праўда гэта, што ты, скончыўшы вясковую школу, адразу ж паступіла ў тэатральна-мастацкі інстытут?**

— Праўда. Я нарадзілася ў далёкай вёсцы Харужанцы, што на Ваўкавышчыне. Натуральна, мастацкіх студый там не было: проста я сама малявала. Школу скончыла з залатым медалём. Потым прачытала ў газеце, што ідзе набор у інстытут, і вырашыла рызыкнуць. Спазнілася на тры дні — першы тур ужо заканчваўся, але дзякуючы Маю Данцыгу і Міхаілу Бяляеву, якія ўбачылі мае "вясковыя" работы, мяне дапусцілі да экзаменаў.

**— І хто прымаў у цябе экзамены?**

— Грамыка, Рэй, Крохалеў. Практычна ніякай першапачатковай падрыхтоўкі ў мяне не было, але мяне падбадзёрыў Іван Пятровіч Рэй: малюй, кажа, так, як ты ўмееш, не азірайся ні на кога!

Карацей, я стала студэнткай аддзялення мастацкага афармлення тканін метадам ткацтва і друку. Хаця па-вар'яцку любіла графіку: акварэль, гуаш, кніжную ілюстрацыю, а таксама аплікацыю, калаж...

**— Якой тэме была прысвечана твая дыпломная праца?**

— Тэме музыкі. Я падрыхтавала два творы — габелен "Скрыпкі" і батык "Музыка". Габелен ткала проста ў інстытуце. Ткала па-свойму, паводле інтуіцыі, бо ў той час мала хто ведаў таямніцы габелена: фактуру, перапляценне, колеравыя вырашэнні, тэхніку перабору і г.д. Ды і нагул, што такое дэкаратыўнасць — таксама мала каму было вядома...

**— І як твой лёс склаўся потым?**

— Пасля ВНУ працавала на Баранавіцкім баваўняным камбінаце, займалася малюнкам для тканін у стылі авангарда, распрацоўвала сваю колеравую палітру. Там жа выканала першую вялікую творчую замову — 10-метровы габелен "Лён" для аднаго калгаснага клуба. А час ад часу пасылала свае творы на выставы ў Мінск. Карацей, цалкам "увайшла" ў габеленавае мастацтва, хаця шмат працавала і ў графіцы, і ў мастацкім афармленні. Потым пераехала ў Мінск, працавала афарміцелем у будаўнічым трэсце, у Доме літаратара. Дарэчы, старшынёй Саюза пісьменнікаў у той час быў Максім Танк. І тут, у Мінску, шмат працавала ў тэхніцы габелена: сама ткала, сама фарбавала ніткі... І ўсё гэта — на маёй мікракухні памерам паўтара на паўтара метра... Пасля Дома літаратара займалася педагагічнай дзейнасцю ў Дзіцячай мастацкай школе № 2...

**— А цяпер?**

— Цяпер выкладаю ў Дзіцячай школе мастацтваў. Акрамя гэтага, для кафедры мастацкага мадэлявання Акадэміі мастацтваў я распрацавала пяць метадычных праграм...

**— Я памятаю твае габелены "Развіднела", "Сугучнасць", "Сказ пра бульбу", што мелі вялікі поспех на выставах. Такія, на першы погляд, розныя, але ў той жа час аб'яднаныя нейкай "стыхійнай жывапіснасцю", асаблівай эмацыйнасцю, адмысловым стаўленнем да таго, што ты адлюстроўваеш...**

— Усе творы я рабіла толькі па закліку душы, у тым ліку і тыя, што рабілася па замове. А задумы? Задумы прыходзяць па-рознаму. Скажам, знаходжу тэму і ўжо ведаю, што тэма павінна быць рэалізавана менавіта ў гэтай форме, а не ў іншай. Іншы раз задумы прыходзяць выпадкова, інтуітыўна, аднак, гэтыя "выпадковасці" — заканамерныя. А іншы раз будучы твор нараджаецца доўга, паступова...

**— Ці складанае гэта мастацтва — габелен?**

— Вельмі. У ім нібыта сінтэзуецца нешта і ад жывапісу, і ад керамікі, і ад арнаменту, і ад аб'ёмнай пластыкі, і ад графікі. І знайсці гэты сінтэз дадзена не кожнаму. Я ўжо не кажу пра кампазіцыю, якая ў габелене займае адно з вядучых месцаў.

**— Якія з габеленаў табе падабаюцца?**

— Старажытная шпалера — заходнееўрапейская, фігуратыўная. Вельмі прываблівае польскі шматслаёвы габелен. І ў нас на Беларусі з'яўляюцца цікавыя рэчы. Але не магу сказаць, што беларускі габелен мае сёння свой твар. Ён пакуль што нібыта ў пошуку: вагаецца паміж нечым дэкаратыўным і станковым.

**— У тваіх вялікіх, "інтэр'ерных" габеленах, ды і ў міні-габеленах прысутнічае штосьці касмаганічнае. Альбо я памыляюся?**

— Сапраўды, мне блізкія паганства, стыхія прыроды, энергія зямлі і вады. Дарэчы, мой знак — Панна. Я люблю фактурны габелен, не "бліскучы", не вылізаны. Жывы габелен, які дыхае, напоўнены колерам, музыкай, духоўнасцю. Вось і цяпер я заканчваю вялікі габелен "Шпацыр па раі", заснаваны на трох колерах: сінім, чырвоным і залацістым. Там у мяне птушкі, жывёлы, травы, карацей, рай. Але рай гэты нібыта згвалтаваны. Гэта не Аркадыя, не Эдэм, а штосьці больш зямное, блізкае да нашага невясёлага часу... Аднак рай для мяне — гэта вечнае імкненне да духоўнасці. А гэтае імкненне — натуральны стан чалавека. Нармальнага чалавека. Вось у такім стане я знаходжуся, калі працую. І вельмі кепска пачуваюся, калі не працую...

**— Люда, я віншую цябе з тваім юбілеем і жадаю, каб усе твае творчыя планы здзейсніліся!**

— Дзякуй за добрыя словы.

Аўтар "Мастыхіна" Барыс КРЭПАК


Л.Петруль. "Год чырвонага быка". Габелен.

№ 38 27 верасня — 3 кастрычніка 1997.



# СТРАСЦІ ПА КУПАЛЕ

***Рускі драматычны тэатр імя Горкага вязе ў Брэст "Раскіданае гняздо" Я.Купалы. Пра гэта размова з мастацкім кіраўніком тэатра Барысам ЛУЦЭНКАМ.***

**— Барыс Іванавіч, спектакль, які вы везяце на фестываль "Белая Вежа", вамі ж ставіўся на сцэне Купалаўскага тэатра, а потым па ім быў зняты фільм.**

— Так, сапраўды, і гісторыя яго пастаноўкі была вельмі дзіўная. Кім Іванавіч Хадзееў, які ў той час быў у апале ў спецслужбаў, падказаў мне ідэю і нават магчымасць разбору гэтага спектакля. Без сумеснай працы з гэтым чалавекам наўрад ці атрымаўся б спектакль такім цікавым: у Купалаўскім тэатры ён пратрымаўся дзесяць гадоў. Пасля, калі я працаваў ужо ў Рускім тэатры, наш тэатр любіў наведваць Уладзімір Мацвееў, які быў старшынёй Дзяржкіно БССР, — ён прапанаваў мне паставіць, зняць мастацкі фільм. І я выбраў "Раскіданае гняздо". Ужо з зацверджання сцэнарыя пачаліся розныя праблемы. Здымаў я з задавальненнем — у мяне была вельмі добрая група, якая з ахвотай узялася за працу, з энтузіязмам прыняла мой сцэнарый. Атрымаўся мантаж фільма па-мойму вельмі добры і моцны. Мацвееў, каб перастрахавацца, паказаў фільм чалавеку з ЦК Аляксандру Кузьміну. І вось з фільмам здарыўся скандал, як раней і са спектаклем, а ўсё з-за адной фразы, у якой гаворыцца, што ад сумы не павінны зараканца нават людзі на высокіх пасадах. У выніку быў зроблены іншы мантаж, моцна абрэзаны, фільм атрымаўся зусім іншым. І калі ён выйшаў, я вельмі перажываў, амаль адмовіўся ад яго.



**— Чаму вы ў трэці раз звярнуліся да гэтага твора?**

— Разважаючы над сённяшнім днём, я захацеў вярнуцца да тэмы раскіданага гнязда. Проста я вельмі люблю гэты твор, устаўляю ў яго вершы Янкі Купалы і лічу, што ён сучасны, актуальны. Вярнуўся, нягледзячы на тое, што ў нас рускамоўны тэатр, але праблем з мовай у нас не было, усе акцёры добра ведаюць беларускую. Мы запрашалі кансультантаў па мове з музея Янкі Купалы, але прэтэнзій да мовы спектакля ў іх не было.

**— Ці ёсць нешта новае ў гэтым спектаклі ў параўнанні з першым і з фільмам?**

— Я не магу ацэньваць свой спектакль, але людзі, якія бачылі першы варыянт спектакля ў тэатры Янкі Купалы і бачылі фільм, кажуць, што гэта не паўтор, што шмат новага, хоць схема ў пэўнай ступені засталася ранейшая. Іншае афармленне, іншая музыка, іншыя акцёры, іншае ўспрыняцце некаторых сцэн. Я вельмі задаволены работай акцёраў, што атрымалася — ацэньваць гледачам і крытыкам. У гэтым спектаклі ёсць вельмі цікавыя тэмы, якія я люблю расказваць, канечне, хацелася б, каб і глядач гэта разумеў. А то бывае, што я расказваю, а мне — "Дык гэтага ў спектаклі не відаць!" А чаму не відаць: не заўважыў ці не захацеў заўважыць. Канечне, гэты спектакль не аб тым, як беднага Лявона Зябліка выганялі з хаты. Гэта спектакль аб тым, што кожны ў крытычнай сітуацыі прапанаваў свой выбар, лічыць яго самым правільным і не прымае іншыя. Кожны персанаж нясе сваю тэму, але самае галоўнае, што людзі пачынаюць не прымаць адзін аднаго. Тады з'яўляецца Невядомы, ролю якога выконвае той жа акцёр, што іграе Лявона. Тут атрымліваецца, што смерць — гэта яшчэ і прасвятленне. Незнаёмы, як мне здаецца, выказвае галоўную думку спектакля: не трэба сварыцца, трэба знаходзіць не толькі недахопы адзін у аднаго, але і вартасці.

Самай вялікай узнагародай для сябе за гэты спектакль я лічу тое, што некаторыя гледачы на праглядзе плакалі.

**— Што для вас значыць удзел у міжнародных фестывалях?**

— У мінулым годзе на фестывалі "Белая Вежа" мы не былі. Нас запрашалі, але паставілі час для паказу ў дзесяць гадзін вечара, і мы адмовіліся. Зараз згадзіліся, бо паставілі нармальны час, акрамя гэтага, я вельмі хачу паказаць Купалу. Мы былі нядаўна на Шылераўскім фестывалі ў горадзе Манхайн — там даюць два дні рэпетыцый перад спектаклем. У нас фестывалі вельмі хуткаплынныя, арганізатары хочуць паказаць як мага болей спектакляў у адзін дзень. Таму хочацца пажадаць, каб на "Белай Вежы" арганізатары больш уважліва ставіліся да калектываў.

**Міхась БАШУРА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ...І КАЗАЧНЫ ПАДМАН БЯСКОНЦЫХ ЦУДАЎ

***Неяк у мяне папыталіся, у чым, на маю думку, розніца паміж вельмі еўрапейскай і вельмі азіяцкай краінамі. Мне падумалася, што галоўнае адрозненне ў тым, што калі мы марым пра ідэал нашага жыцця, дык гэта жыццё заходніх еўрапейцаў, а жыццё ўсходніх і паўднёва-ўсходніх азіяцкіх краін не ўпісваецца ў нашую шкалу каштоўнасцяў — так жыць мы проста не змаглі б. Але менавіта гэтае непадабенства ва ўсім, і ў кожнай дробязі і ў цэлым, спакушае нас, прымушаючы альбо закахацца адразу, альбо не прыняць аднойчы і назаўжды гэты здзіўляючы свет — Азію.***

Першае, што ўразіла мяне ў Кітаі, куды наша трупа Нацыянальнага тэатра балета Беларусі трапіла, выйшаўшы з будынка аэрапорта, гэта тое, што нібыта на машыне часу нас перанеслі ў нашае, зусім недалёкае "сярпаста-малаткастае" мінулае. З велізарных плакатаў на нас глядзелі натхнёныя твары кітайскіх рабочых і працаўніц вёскі. Іхнія вочы, здавалася, выразна бачылі за гарызонтам нябачныя для нас абрысы камунізму. Падумалася: як мала часу патрэбна чалавеку, каб развянчаць ягоныя нядаўнія ідэалы, але як доўга трэба ствараць новыя.

Аднак трэба аддаць належнае кітайцам — уся гэтая вонкавая "сацыялістычнасць" не замінае ім мысліць і жыць значна больш па-рыначнаму, чым мы. З першых крокаў па кітайскай зямлі артысты былі атакаваныя прадаўцамі сувеніраў, якія гучна крычалі на жудаснай англійскай мове : "Чыпа! Чыпа!" ("Танней! Танней!").

Першым горадам нашага гастрольнага турнэ стаў Пекін. Самі кітайцы называюць яго Бейцзінг, што ў перакладзе азначае "Паўночная сталіца", і мне здаецца, што ім лепей ведаць, як называецца гэты старажытны горад, што быў сталіцай агромністай азіяцкай імперыі задоўга да нараджэння дзяржаўнасці ў нас. Увогуле кажучы, гісторыя Кітая здзіўляе хаця б тым, што кітайцы могуць пералічыць усіх сваіх кіраўнікоў, пачынаючы з XXI стагоддзя да нашай эры аж да сёння. І хай імператары першых дынастый напаўлегендарныя, але які еўрапейскі народ можа пахваліцца чатырохтысячагадовай гісторыяй (і нават больш) сваёй цывілізацыі. І ўсё, што дайшло з глыбінь кітайскай старажытнасці, і што нам давялося пабачыць, усяляла бязмежную павагу да гэтага народа.



Самае сэрца Пекіна-Бейцзінга — плошча Цянь Ань Мынь — сімвал Кітая і самая вялікая плошча ў свеце. У самалёце, калі мы ляцелі ў Кітай, мой выдатны спадарожнік пажартаваў, сказаўшы, што кітайцы ганарацца самым вялікім месцам у свеце, дзе нічога няма, гэта значыць, практычна, пустэчай. Убачыўшы на свае вочы гэтую плошчу, магу запэўніць вас, што гэта — няпраўда. Цянь Ань Мынь вельмі прыгожая ўдзень, а ўначы, калі суседнія будынкі эфектна асвятляюцца, яна проста цудоўная. Адзін з гэтых будынкаў — Брама Нябеснага Спакою і даў назву ўсёй плошчы. Гэтая брама адлюстраваная на гербе Кітая. Праз яе з плошчы можна трапіць у легендарны Гугун (Забаронены горад) — Зімовы палац кітайскіх імператараў. Пабудаваны ў XV стагоддзі, ён уражвае сваім хараством і маштабнасцю.

На велізарнай тэрыторыі палаца, што абкружаны 10-метровай сцяной, у строгім анфіладным парадку ўзвышаюцца агромністыя павільёны. Тут міжволі ўзгадваецца назва кітайскіх уладароў — імператары паднябеснай імперыі. І сапраўды, штосьці незямное ёсць у магутнасці гэтых архітэктурных формаў.

Але мы не толькі наведвалі слынныя мясціны кітайскай сталіцы. Паводле плана нашых гастроляў некалькі спектакляў мы павінны былі даць у канцэртнай зале Пекінскай выставы. Велізарная зала была цалкам запоўненая, нягледзячы на вельмі высокія для Кітая кошты на білеты. Але напрыканцы першага акта нас падпільноўвала нечаканасць: аказваецца, кітайцы не ўмеюць апладзіраваць у звыклым для нас разуменні. Калі пасля цудоўна выкананых трыццаці двух фуэтэ Адыліі ў "Лебядзіным возеры" мы пачулі дружныя, але вельмі кароткія апладысменты, усе, хто знаходзіўся на сцэне, пераглянуліся — няўжо, праваліся?!

Але не, узнёслыя твары кітайскіх гледачоў сведчылі пра тое, што наша мастацтва зразумелае і блізкае тым, хто сядзеў у зале — проста гэта кітайскі спосаб выказваць сваё задавальненне артыстам. І напрыканцы гастроляў мы прызвычаіліся да гэтага, бо "ў чужы манастыр са сваім статутам не ходзяць". Толькі аднойчы, на поўдні Кітая, зала ўзарвалася "сапраўднымі" апладысментамі. Усе мы не зразумелі — што здарылася са стрыманай кітайскай публікай? Сакрэт аказаўся простым: на спектакль прыйшлі танцоўшчыкі з Краснаярскага ансамбля танца, якія ўжо працуюць час працуюць у Кітаі, і іхні энтузіязм павёў за сабою ўсю залу.

З прычыны гастрольнага раскладу наша вандроўка праходзіла пад дэвізам: "З поўначы на поўдзень". У Кітаі гэта азначае: "ад беднасці да багацця". Справдеку паўночныя правінцыі былі беднейшыя за паўднёвыя. І цяпер, разам з распаўсюджаннем рыначных адносінаў, гэтая розніца толькі павялічваецца.

Самая паўднёвая кропка нашай паездкі — горад Шэн Жэнь. На маю думку, калі б званне "цуд свету" надаваліся ў наш час, гэты горад меў бы велізарныя шанцы. Створаны на пустым месцы за 12 гадоў, ён нібыта аддзяляў англійскі тады Ганконг ад мацерыка. Ягоным "хросным бацькам" лічыцца Дэн Сяопін. У будаўніцтва гэтага горада было ўкладзена ўсё лепшае, што меў у тыя гады Кітай. У выніку з'явіўся звышсучасны горад — вельмі багаты і дагледжаны. Гэта дзяржава ў дзяржаве, і простаму кітайцу не так проста сюды трапіць. Хаця гэта і тэрыторыя Кітая, але тут існуе строгі пашпартны кантроль з турнікетамі і ўзброенай аховай, што стварае ўражанне дзяржаўнай мяжы.

Але сам горад падобны да аазіса. Кантраст з астатнім Кітаем уражальны. Хмарачосы і раскошлівыя клумбы на вуліцах, дарагія крамы і цудоўныя паркі. Пра адзін з паркаў мне хочацца распавесці больш падрабязна. Гэта парк пад назвай "увесь свет у мініяцюры", які месціўся літаральна насупраць нашага гатэля. Не ведаю, каму належыць ідэя стварэння падобных паркаў, але тое, што ідэя гэтая цудоўная — бясспрэчна. Ці ўяўляеце вы сабе шпацыр па ўсім зямным шары на працягу трох гадзін? Я таксама не ўяўляў, але гэта сапраўды магчыма. Падзелены на пяць сектараў (паводле колькасці частак свету), парк аднаўляе не толькі знешні выгляд тых альбо іншых знакамітых збудаванняў, але і нейкім незразумелым чынам дае магчымасць адчуць атмасферу той альбо іншай краіны. Музыка, што гучыць адусюль, і незвычайнае мастацтва садоўнікаў, дазваляюць дасягаць амаль цудаў. Адна і тая ж рака ператвараецца ці то ў Няву, ці то ў Цемзу, ці то ў Сену, і ў яе па чарзе глядзяцца скульптуры Зімовага палаца ў Пецярбургу, магутны Біг Бэн, хімеры сабора Парыжскай Божай Маці. Але больш за ўсё мяне ўразіў Ніягарскі вадаспад, што скідвае свае воды ў строгай адпаведнасці з маштабам і ахутвае водным пылам здзіўленых турыстаў. І мы ўсе ахвотна і з задавальненнем паддаліся казачнаму падману гэтага парку.

* * *

Кітай праводзіў нас трапічным лівнем, і было трошкі сумна думаць пра тое, што гастролі ўжо скончыліся. Але ж калі-небудзь, спадзяюся, мы зноў зможам прыехаць сюды са сваімі спектаклямі, бо Кітай — гэта тая краіна, якую можна адкрываць для сябе бясконца.

**Раду ПАКЛІТАРУ,**
**артыст Нацыянальнага тэатра балета Рэспублікі Беларусь.**

**З 23 па 26 верасня ў Малдове прайшлі Дні беларускай культуры. Пра гэтую падзею ў наступных нумарах "Культуры" раскажа наш спецкарэспандэнт, які выправіўся туды разам з афіцыйнай дэлегацыяй.**
**А сёння мы прапануем вам успаміны Уладзіміра Шаліхіна пра ягоныя сустрэчы са знакамітай малдаўскай opернай спявачкай Марыяй Біешу.**

# "Я Ж ЛЕПШАЯ Ў СВЕЦЕ БІЕШУ!"

Гэта была сенсацыя, калі ў 1967 годзе ў конкурсе на лепшае выкананне ролі Чыо-Чыо-Сан у оперы Пучыні першае месца заняла Марыя Біешу. Водар перамогі быў яшчэ ад таго больш моцным, што конкурс праходзіў на радзіме маленькай гаротнай гейшы. Але, уласна кажучы, для нас сюрпрызу не атрымалася, бо мы ўжо добра ведалі і любілі гэтую спявачку. Мне падумалася: а што б было, калі б яна нарадзілася не ў малдаўскай вёсцы, а дзе-небудзь у Італіі, ды прыйшла на конкурс з нагоды адкрыцця пасля вайны тэатра "Ла Скала", што наладзіў вялікі Тасканіні? Тады б, акрамя "сіньёра Тэбальдзі", як называлі знакамітую Рэнату (паводле прозвішча цяжка было вызначыць пол), ён праслухаў бы і "сіньёра Біешу". І яшчэ невядома, каму б з гэтых дзвюх сіньёр маэстра аддаў перавагу. Проста для нашай Марыі шлях да сусветнай славы аказаўся больш складаным за шлях яе каляжанкі Тэбальдзі. Бо жыццём савецкай спявачкі кіравала мноства чыноўнікаў і часта яны вырашалі, дзе ёй спяваць, што ёй спяваць, і не выключана, што яны вызначалі, здаралася, у якой сукенцы ёй быць.

Калі яна выступіла на самай прэстыжнай сусветнай опернай сцэне ў "Метраполітэн-Опера" і потым яе запрасілі туды на некалькі сезонаў, "пускаць было не загадана". Больш дакладна, не ехаць яе ўгаворвала міністр культуры Фурцава, ды і сама Марыя баялася — вельмі ўжо напружанымі былі тады адносіны з Амерыкай і, наогул, міжнародныя. Вось і засталася "пеўчая птушка" дома спяваць для сваіх суайчыннікаў. Але не было б шчасця, дык няшчасце дапамагло. Затое мы часта слухалі яе ў сябе. Яна шмат разоў спявала ў Мінску, і я заўсёды сядзеў побач з канцэртмайстрам. Гэта сапраўднае шчасце: бліжэй за ўсіх чуць голас, у якім я адчуваў адценні тэмбру знакамітых жрыц бельканта — Розы Понсель, Клаўдыі Муцыо, "сіньёра Тэбальдзі". Але голас Марыі непаўторны па сваёй прыгажосці і пяшчоце. Ён стаіць побач з самымі выдатнымі ў гэтым сэнсе цудамі прыроды.

За кулісамі, да пачатку і пасля канцэрта, я заўсёды ўспрымаю Марыю Лук'янаўну як вялікае дзіця. Звычайнае хваляванне: здаецца, не гучыць голас. І вось ужо клічуць "гарлавіка" з оперы Сіму, і тая нешта ўлівае, чымсьці змазвае найкаштоўнае горла. А троху разбэшчанае дзіця глядзіць вачыма, што моляць: дапамажыце, паспачувайце, мне ж зараз спяваць, а раптам голас падвядзе? Зразумець яе можна — каму шмат дадзена, ад таго і чакаюць нечага асаблівага. Тым больш, што большасць спевакоў — вязні, рабы свайго голасу. Ад яго гучання залежыць усё, а галоўнае, жыццёвы тонус. Таму найдрабнейшае сумненне — і ўжо хваляванне... Але вось усе працэдуры зроблены, і яна выходзіць на сцэну. Яе вітае моцная бура апладысментаў, і Марыя паступова бярэ ў палон усіх, хто прыйшоў на сустрэчу з ёй. Іншы раз была нагода для лёгкага засмучэння — спявачка магла забыцца на словы. Але не спявала ніколі з кніжачкай у руках. І тут жа канцэртмайстар, які суправаджаў яе спевы, павінен быў быць гатовым падказаць слова. Запалоханы погляд клікаў на дапамогу, і, здаралася, мы з канцэртмайстрам прамаўлялі слова разам.

Потым надыходзіў час "бісоў". "Я ж павінна рэабілітавацца", — гучаў мілы, злёгку капрызлівы мінор у голасе, і часам яна спявала яшчэ адно аддзяленне. Аднойчы яна так "выдала" слынную расійскую каваціну Разіны, што дасюль у маім успрыняцці Біешу мае тут пальму першынства. Неяк сказала: "Ва ўсіх вялікіх артыстаў ёсць нейкія дзівацтвы. Трэба і мне займець". Яна не ведала, што яе звычка быць перад канцэртам не зусім здаровай, каб нехта паспачуваў, зразумеў, які подзвіг яна здзяйсняе, заўсёды кранае. Аднойчы пасля некалькіх "бісоў" публіка пачала павольна паднімацца. "Чаго вы падняліся, — з дзіцячай непасрэднасцю сказала Марыя. — Сядайце". І загадала сваімі батэрфляеўскімі ручкамі Чыо-Чыо-Сан, што засталіся ў яе назаўсёды: "Сядайце, я яшчэ буду спяваць". І ўзрадавала цудоўным выкананнем некалькіх арый. А публіка адказала сваёй любімай спявачцы ўдзячнымі апладысментамі.

На беларускім радыё захоўваецца запіс канцэрта, дзе Біешу спявала творы французскіх кампазітараў. Шмат знаёмых твораў, безліч новых тэкстаў і ўсё — выдатна. Яны разам са знакамітым акампаніятарам Яўгенам Шэндэровічам зліваліся ў адзіным пачуцці. І тут вельмі дарэчы зайздросная непасрэднасць у перадачы найтанчэйшых нюансаў, што ўласцівая французскай музыцы. Канцэрт іншы раз перадаюць па радыё, і тады ў маёй душы — вясна.



Чыо-Чыо-Сан у оперы Дж.Пучыні "Чыо-Чыо-Сан".

Дорогому Владимиру в знак нашей давней дружбы желаю чтобы дружба никогда не кончалась с благодарностью и любовью Мария Биешу 23.10.1996 г. г. Минск

Голас непаўторнай Марыі гучаў у "Аідзе", "Трубадуры" і ў нашым оперным тэатры. Безумоўна, незабыўная яна ў Чыо-Чыо-Сан. А аднойчы малдаўскі тэатр прыехаў на гастролі ў Мінск. І тады Біешу выступала ў "Адрыене Лекуўрор" Франчэска Чылеа. Аўтар оперы ў прыгожых мелодыях выказаў шчырыя пачуцці сваіх герояў. Спявачка вельмі эмацыйная, Марыя Лук'янаўна нібыта сваё асабістае жыццё і боль успрыняла гісторыю сваёй далёкай папярэдніцы. Спектакль і цяпер жыве ў маёй памяці, а ў цэнтры яго — безумоўна, Богам дадзеная Марыя-Адрыена.

Мне даваліся неяк быць сведкам засмучэння спявачкі. Калісьці, не памятаю ўжо, з якой нагоды, у Доме афіцэраў праходзіў грандыёзны канцэрт, у якім удзельнічалі самыя знакамітыя артысты. Не памятаю ўсіх, але вось тое, што іграў Растраповіч і спявалі Вішнеўская, Мілашкіна, Біешу, Салаўяненка — гэта памятаю дакладна. Уяўляеце ўзровень канцэрта? Заходжу падчас рэпетыцыі да Галіны Паўлаўны Вішнеўскай. Яна была тады некаранаванай царыцай Вялікага тэатра. Гледзячы ў люстэрка, прымадонна тонам, які не пакідаў шанцаў на альтэрнатыву (яно тут дарэчы, гэта моднае слоўца), паведамляе: "Скажыце іншым артысткам, каб не спявалі арыю Чыо-Чыо-Сан — яе буду спяваць я". Ці здолеў бы хто-небудзь не падпарадкавацца? І я пайшоў шукаць тых, каму было не дазволена выконваць арыю маленькай японкі, якая паверыла прыгожаму амерыканцу іператварыла сваё жыццё ў чаканне. Грукаю ў дзверы. "Уваходзьце", — прамовіў голас, які не зблытаеш ні з якім іншым. Я, безумоўна, разумеў, што не ўзрадую яе сваім паведамленнем, але што ж паробіш? — Сама загадала! "Машачка, — вельмі пяшчотна і спачувальна сказаў я, — арыю Чыо-Чыо-Сан будзе спяваць Вішнеўская". Твар беднай Машы набыў выраз дзяўчынкі, у якой адабралі любімую ляльку. Гэта — не гора, але глыбокае засмучэнне. З сумнай інтанацыяй яна дарэмна спрабавала знайсці справядлівасць: "Я ж пераможца конкурсу на лепшае выкананне ролі Чыо-Чыо-Сан". Мне было шчыра шкада яе. Але я падумаў: "А яна — Галіна Вішнеўская". Давялося Марыі Біешу спяваць знакамітую арыю Лізы з "Пікавай дамы": "Ах, истомилась, устала я". І яна мела вялікі поспех.

Потым час і палітыкі развалілі некалі "адзіны магутны" Савецкі Саюз, вядомыя, любімыя артысты ўсё радзей сталі прыязджаць да нас. А паміж народамі ж варажнечы не было, тым больш у мастацтве. Ну, якая розніца, хто па нацыянальнасці той альбо іншы спявак ці музыкант, які заваладаў тваім сэрцам?

Ну вось, дзякаваць Богу, адрадзілі дэкады мастацтва, і ў Мінску — Дні культуры Малдовы. З радасцю чакаю сустрэчы з Марыяй Біешу. У нас добрыя стасункі. Яна неяк казала: "За канцэрт у Мінску я спакойная, таму што там ёсць Валодзя Шаліхін". Пабачыліся ўдзень на рэпетыцыі, а вечарам — канцэрт. Яна — у ружовых танах, баа з пер'я — нібыта дзівосная птушка. Эфектны выгляд. Так і належыць сусветнай "зорцы". Адчуваю, што некалькі хвалюецца. Даўно не была ў нас, а тут яе любяць. Я паведаміў публіцы, што зараз выступіць артыстка, якая мае шмат узнагарод, тытулаў і званняў, але ёсць адно, якім валодае толькі яна. Гэтае званне — Марыя Біешу. У вітальных апладысментах — вялікая любоў. Яна праспявала некалькі нумароў і сярод іх арыю Адрыены. Голас гучаў упэўнена, прыгожа, ён усё той жа, чароўны. У сольным канцэрце ў суправаджэнні аргана са сваёй партнёршай Ганнай Стрэзевай Біешу пела, у асноўным, творы розных кампазітараў, — своеасаблівыя варыяцыі на духоўную тэму Ave Maria. Пасля адмены рэлігійных забаронаў яны, нібыта птушкі пасля доўгага чакання, вылецелі на волю і пасяліліся ў чалавечых сэрцах. Такія канцэрты спяваюць Ірына Архіпава, Алена Абразцова, Ліна Мкртчан. Гэта — святая музыка. У голасе Біешу столькі далікатных, пранікнёных пачуццяў, што слухаць у яе выкананні падобныя мастацкія малітвы — велізарнае задавальненне.

Скончыліся малдаўскія дні аўтарскім канцэртам папулярнага кампазітара Яўгена Догі. Гэты грандыёзны, разнастайны вечар з мноствам удзельнікаў, — і маленькіх, і вялікіх, — тых, хто толькі пачынае свой шлях у мастацтве, і тых, хто стаў ужо знакамітым. Ва ўсім свеце Марыя Біешу вядомая як выдатная оперная спявачка. Многія цэняць у ёй талент пранікнёнай камернай выканальніцы. Але ёсць у яе сэрцы куточак, што назаўжды аддадзены роднай малдаўскай песні. Бо з яе і пачаўся шлях вясковай дзяўчыны да сусветнай славы. І ў гэтым канцэрце ў творах Догі голас Біешу, глыбокі, хвалюючы, стаў упрыгожаннем гэтага шматграннага акорда.

...Трошку пагаманілі — бо не бачыліся даўно. Яна па-ранейшаму — у славе і пашане. А як жа? Яе голас — самы каштоўны дыямент у кароне малдаўскага мастацтва. Ягоныя промні зіхацяць ва ўсім свеце. "Вас не крыўдзяць?" — папытаўся я, ведаючы, што з цягам часу стаўленне нават да вялікіх артыстаў мяняецца. — "Я не дазволю сябе пакрыўдзіць", — з упэўненасцю Машы са "Шчаўкунка", якая не пабаялася кінуць чаравік у мышынага караля, адказала вялікая дзяўчынка Марыя. Малайчына, так і трэба!

Я атрымаў у падарунак яшчэ адзін фотаздымак. Калі зноў сустрэнемся? Здароўя Вам і выдатнага гучання Вашаму голасу, лепшая ў свеце Біешу.

**Са шчырай сімпатыяй**
**Ваш Уладзімір ШАЛІХІН**

# ЗАЛАТЫ КУБАК — ВІНО ПІЦІ



Гладыш.



Гляк.



Дзяжа.

У даўніну ў беларускай вёсцы карысталіся посудам, зробленым з дрэва, гліны ці з металу. Праўда, металічныя вырабы, якія выконваліся ў асноўным з медзі, у гаспадарцы простых людзей з-за дарагавізны былі дастаткова рэдкія, тут пераважаў драўляны і керамічны посуд. Пасудзіны з дрэва былі доўбаныя (міскі, каўшы, ступы і інш.), а таксама наборныя з дошчачак (бочкі, вёдры, кублы, дзежкі, балеі і г.д.). Вельмі разнастайны быў гліняны посуд, які выконваўся з дапамогай ганчарнага круга. Найбольш пашыранай глінянай пасудзінай з'яўляўся гаршчок. Ён звычайна меў пукатае тулава, якое звужалася зверху і знізу, невялікае вусце і яшчэ меншае дно. Накрываўся гаршчок глінянай покрыўкай. Прызначалася гэтая пасудзіна для варкі ежы. Для гэтай жа мэты выкарыстоўваліся і латкі (латушкі). Яны мелі розныя формы: з тулавам, сілуэт якога нагадваў трапецыю, эліпсападобнай формы з нізкімі краямі, а таксама такія, што былі падобныя да гаршка, але з больш раскрытым вусцем. Дастаткова пашыраным відам посуду была макотра — пасудзіна з шырокім вусцем і вузкім дном. Ужывалася яна для расцірання прадуктаў, закваскі цеста, а таксама і для варкі ежы. Існавалі розныя пасудзіны для захавання вадкіх прадуктаў. Для малочных прадуктаў звычайна ўжываліся гладышы — высокія пасудзіны з пукатым тулавам і звужанай шыйкай. Блізкі па форме да гладыша быў збан (кушын), але ў адрозненне ад названай пасудзіны, ён меў яшчэ ручку і носік-лейку. Збан выкарыстоўваўся не толькі для малака, але і для іншых напояў, а часам і ў якасці даёнкі. Пашыраны таксама былі пасудзіны, якія называліся слоікамі ці карчагамі. Яны вызначаліся шырокім вусцем і пукатым ці цыліндрычным тулавам. Слоікі прызначаліся для засолкі агуркоў, капусты, грыбоў, замочвання яблыкаў, у іх таксама захоўвалі варэнне, мёд, тлушч, смятану і інш. Вельмі цікавай па форме была пасудзіна, якая называлася глякам. Па форме гляк нагадваў антычную амфару — ён меў вузкае рыльца, пукатае тулава, адну ці дзве дугападобныя ручкі. Ужывалася гэтая пасудзіна для захавання квасу, гарэлкі, алею і г.д. Існаваў яшчэ шэраг пасудзін, якія выкарыстоўваліся за сталом: міскі, чашкі, кубкі і інш.

Аднак у даўніну ў жыцці беларускага селяніна посуд меў не толькі ўтылітарнае, але і вялікае сімвалічнае, абрадавае значэнне. Ён адыгрываў важную ролю ў розных традыцыйных народных рытуалах. Пашыраным, напрыклад, быў звычай абраднага разбівання глінянага посуду. Так, беларускія сяляне ў час хрэсьбін выконвалі такі абрад. Падавалі гасцям у пакрытым талеркай гаршку спецыяльна звараную кашу, у талерку госці клалі грошы — "выкупалі кашу", кум жа павінен быў адным ударам разбіць гаршчок аб стол "на шчасце нованароджанаму", але каб каша не вывалілася на зямлю, бо потым з дапамогай глінянага чарапка яму трэба было накарміць кашай гасцей. Далей, у час засухі сяляне ў даўніну, просячы ў багоў дажджу, разбівалі гліняныя гаршкі і кідалі чарапкі ў калодзеж. Яшчэ існаваў народны абрад, які называўся "Цялёпа". Ён праводзіўся ў час, калі вывозілі талакою гной. Цялёпай клікалі вазніцу апошняга воза. Абрад складваўся з таго, што гэты "Цялёпа" ў час, калі ўсе ўдзельнікі работ садзіліся абедаць, павінен быў выкрасці са стала гаршчок з кашай, з якога потым усе навыперадкі хапалі гэтую кашу, а гаршчок разбівалі.

Абрад з разбіваннем гаршка каранямі сваімі ідзе ў далёкае мінулае. Археолагамі вызначана, што язычнікі-славяне абкладвалі свае слупы-ахвярнікі ў некалькі слаёў чарапкамі бітых пасудзін. Пры гэтым спачатку разбівалася адна вялікая пасудзіна і ўсе яе фрагменты ўкладваліся вакол ахвярніка на гліняную аснову і замазваліся глінай. З другой разбітай пасудзіны клаўся наступны слой і г.д. Рытуальнае разбіванне свяшчэнных пасудзін тут абазначала абрадавае ахвярапрынашэнне бажаствам. Гэты рытуал і наогул існаванне ў старажытных славян-язычнікаў свяшчэнных пасудзін вызначалі тую асобую ролю, якую для іх адыгрываў посуд наогул. Як і ўсе рэчы матэрыяльнага свету, пасудзіны людзьмі старажытнасці ўспрымаліся як адухоўленыя істоты, якія жывуць якімсьці сваім жыццём і могуць неяк паўплываць на жыццё чалавека. У кожным свяцілішчы старажытных славян-язычнікаў, як паказваюць дадзеныя археалогіі, існаваў цэлы набор свяшчэнных пасудзін, якія прызначаліся для прынясення ахвяр і ўжывання рытуальных свяшчэнных напояў. Меліся ў язычніцкіх жрацоў-валхвоў таксама і спецыяльныя пасудзіны для варажбы, якая праводзілася з дапамогай "свяшчэннай" вады. Удзельнічалі ў старажытных славян пэўныя пасудзіны і ў абрадавых ігрышчах. Так, у "Стоглаве" Івана Жахлівага з асуджэннем гаворыцца аб язычніцкіх рытуальных гульнях, пры якіх адбываліся скокі "над бочкамі і карчагамі".

Менавіта ад продкаў, старажытных славян, абрадавая, рытуальная роля пасудзін захавалася і ў беларускага народа, што ў сялянскім побыце існавала аж да пачатку XX стагоддзя. Акрамя рытуальнага разбівання гліняных гаршкоў, пра якое гаварылася вышэй, можна назваць і яшчэ шэраг прыкладаў удзелу пасудзін у народных абрадах. Так, на Усіх Святых на стол клалі хлеб і ставілі шклянку з вадой "для памерлых продкаў". Шклянка ў гэтым выпадку адыгрывала ролю ахвярнай пасудзіны, ў якой змяшчалася пітво для душаў продкаў. А вось на Купалле спальвалі бочку — таксама ў якасці ахвярапрынашэння, толькі ўжо сонечнаму бажаству. Пры заклінанні ж вясны ў гонар багіні Лялі побач з дзяўчынай, што іграла ролю Лялі, ставілі гладыш з малаком —таксама своеасаблівае ахвярапрынашэнне багіні прыроды. Верылі ў засцерагальнае, магічнае значэнне некаторых пасудзін. Так, каб пазбавіцца ад Мары — жахлівай Істоты, якая часам сялілася ў хаце і ўсяляк шкодзіла гаспадарцы, раілі па старажытным звычаі купіць на базары не таргуючыся гладыш і выкарыстаць яго як пастку для нячысціка.

Вялікае рытуальнае значэнне ў беларускіх сялян мела такая пасудзіна, як хлебная дзяжа. Яна ўдзельнічала шмат у якіх народных абрадах. Яе вялікая рытуальная роля вызначалася тым, што ў дзяжы замешвалі хлеб — аснову жыцця простых людзей. Не выпадкова хлебную дзяжу часта ставілі ў сялянскай хаце ў чырвоны кут як сімвал дабрабыту. Развядзенне ў дзежцы цеста на Новы год, а потым выпечка з гэтага цеста хлябоў ці пірагоў таксама мела сімвалічны сэнс, бо павінны былі паўплываць на добры ўраджай у будучым годзе. Нездарма ў навагодняй валачобнай песні пелася: "Святая Васілля дзяжу мясіла, пірагі пякла і рагатыя, і багатыя".

Часта дзяжа ў народных абрадах фігуравала нібы жывая істота. Так, на Усходнім Палессі на "Зборавў суботу" (субота першага тыдня Вялікага посту) праводзілі так званы абрад "споведзі дзежкі". Абрад заключаўся ў тым, што дзяжу мылі, накрывалі новым ручніком і падкурвалі воскам. У гэты дзень у ёй не замешвалі цеста, бо лічылі, што тады ёй будзе цяжка ісці на споведзь. У некаторых раёнах Беларусі на Чысты чацвер праводзілі абрад "мыцця хлебнай дзежкі". Каля хаты разводзілі касцёр, у якім спальвалі смецце, вымеценае з хаты. Потым каля кастра мылі дзежку, гэтаю ж вадою затым аблівалі хату, што павінна было паспрыяць дабрабыту ў доме. Удзельнічала хлебная дзяжа ў вясельным абрадзе. У першую чаргу, яе выкарыстоўвалі для развядзення цеста пры выпечцы рытуальнага караваю. Калі ж апошні быў гатовы, яго ставілі на "віко" (крышку ад дзежкі), насыпаўшы перад тым на паверхню віка зерне жыта, што павінна было спрыяць багаццю маладых. У час вяселля існаваў таксама абрад "пасаду на дзяжу". Гэты абрад павінен быў выявіць "чысціню маладых" — калі чысціня імі не была захавана да вяселля, яны не мелі права сесці на дзяжу. Бывалі выпадкі, калі бацька не бласлаўляў сына, які адмовіўся сесці на дзежку, а, значыць, не захаваў чысціні.

"Гаспажа — хлеба дзяжа", — паважліва гаварылі пра хлебную дзяжку. Магла яна, як лічылі, і дапамагчы парадзісе ў час радзінаў. У цяжкіх выпадках родаў парадзіху саджалі на хлебную дзяжу. Аналогія тут зразумелая: калі ў дзежцы добра ўсходзіла цеста, нараджаўся хлеб, павінна яна была паспрыяць і нараджэнню чалавека. Дапамагала дзяжа чалавеку і пры барацьбе з дамавіком, калі той наладжваўся заеджваць коней. У гэтым выпадку трэба было паставіць у хляве асвечаную ў царкве свечку, накрыўшы яе дзежкаю. Калі конь пачынаў непакоіцца, нервавацца, што значыла — дамавік сеў на каня, дзежку трэба было хутка зняць і асвятліць дамавіка святлом свечкі. Пасля гэтага, думалі, нячысцік ужо шкодзіць не будзе.

Розныя пасудзіны выкарыстоўвалі і для абрадавай варажбы. Напрыклад, дзяўчаты бралі міску, набіралі ў яе вады і кідалі туды кавалачкі хлеба — у якой дзяўчыны кавалачак усплывае, тая выйдзе замуж, у якой апусціцца на дно, тая застанецца ў дзеўках. На Каляды ж на полі, дзе было зжата жыта, раскопвалі зямлю, клалі туды два камяні і ставілі на іх гліняны гаршчок. Потым прыслухоўваліся, думаючы, што з гаршка можна пачуць, што цябе чакае ў будучыні. Пашыраны быў спосаб варажбы, калі бралі тры якія-небудзь пасудзіны — талеркі, міскі, на іх ці пад іх клалі розныя прадметы, якія потым выбіралі з завязанымі вачамі, па выбранай жа рэчы вызначалі будучыню. Ставілі таксама ў цёмных сенцах дзве закрытыя пасудзіны: з хлебным зернем і пяском. Калі дзяўчына, якая ў цемры сеняў не бачыла, якую пасудзіну бярэ, прыносіла ў хату міску з зернем, то гэта значыла, што ў замужжы яна будзе жыць заможна, калі ж з пяском —то ў беднасці. А вось у варажбе на Купалле пад ложак, у галавах, ставілі пасудзіну з вадой, на яе клалі замкнёны замок —"замыкалі" пасудзіну. Дзяўчына павінна была прысніць суджанага з ключом, які адамкне гэтую пасудзіну. На Каляды ж дзяўчаты ставілі пад ложак новы гаршчок і клалі на яго кавалак хлеба: калі ноччу хлеб зваліцца ў гаршчок, то дзяўчына не скора выйдзе замуж, калі ж не — то ў гэты ж самы год.

З рытуальным, абрадавым значэннем, якое мелі ў беларускага народа пэўныя пасудзіны, звязаны і сімвалічны арнамент, які наносіўся на іх паверхню. Найбольш пашыраным тут было аздабленне гарлавіны ў выглядзе хвалістай лініі ці рада кроплепадобных элементаў. Гэткае афармленне посуду ідзе з глыбокай даўніны, ізноў жа ад пасудзін старажытных славян-язычнікаў. Такія хвалістыя лініі наносілі нашы продкі на гарлавіны свяшчэнных пасудзін, прызначаных для варажбы на вадзе, хвалістыя ж лініі якраз абазначалі ваду. Арнамент у выглядзе кроплепадобных форм таксама можна сустрэць на старажытнаславянскіх пасудзінах, дзе ён сімвалізаваў нябесную ваду, якая арашае нівы.

Вялікая сімвалічная роля, якую адыгрываў посуд у жыцці беларускага народа, пацвярджаецца тым, што ў беларускім фальклоры, у сюжэтах песняў, казак, у міфах віды посуду адыгрываюць значную ролю. Адно з першых месцаў тут займаюць кубкі. У народных песнях мы сустракаем яўную паэтычную ідэалізацыю пасудзіны для піцця, згадванне пра сярэбраныя, залатыя кубкі:

*Тры хлопчыкі, тры малойчыкі,*
*Дзержаць жа яны па кубачку.*
*Па кубачку, па сярэбранаму.*
*У першым кубку зелена віно,*
*У другім кубку салодкі мёд,*
*У трэцім кубку пшоннае піва.*

Не выпадкова ў песнях канкрэтна вызначаецца матэрыял, з якога зроблены кубак ("Мядзяны кубак — к запіваннічку..."; "Сярэбраным кубкам мёд піці...:; "Залаты кубак — віно піці"). Тое, што кубкі ў песнях, казках заўсёды зроблены з каштоўных матэрыялаў, якімі для жыхароў сяла з'яўляліся металы, сведчыць аб асобай ролі, па народных уяўленнях, гэтага прадмета ў свеце рэчаў. Справа ў тым, што ў дадзеным выпадку яўна праявілася сувязь кубка з вобразным светам чашы, якая адыгрывала важную ролю ў абрадавых дзеяннях старажытных славян. Магія, сімволіка кубка гучыць, напрыклад, у наступных словах беларускай народнай песні:

*Неслі ў кубачках вадзіцы,*
*Колькі ў кубачках вады ёсць,*
*Стolькі ў дзевачках праўды ёсць.*

У фальклоры за рознымі рэчамі замацоўваюцца розныя ролі — ці то станоўчыя, ці то адмоўныя. Некаторыя прадметы, у тым ліку пасудзіны, наогул характарызуюцца сувяззю з нячыстай сілай. Такім класічным прыкладам з'яўляецца ступа. У ёй заўсёды, як вядома, у казках раз'язджае Баба Яга, а ў беларускім фальклоры таксама і іншыя блізкія да яе па вобразу персанажы: злая чараўніца жалезная баба, багіня смерці Палендра. Ступка з'яўляецца атрыбутам і казачнай вядзьмаркі Васілісы Дыяболскай (казка "Праварна Ярыжка"). Гэтая роля ступы ў фальклоры не выпадковая і звязана з тым, што ступку звычайна выкарыстоўвалі для змяльчэння сваіх "чарадзейных" зёлак знахары ды знахаркі — людзі, за якімі ў народзе замацоўвалася слава чараўнікоў і якія, як думалі, маюць зносіны з нячыстай сілай. У фальклоры з нячыстай сілай звязваюць таксама і смаляныя бочкі. Так, сцвярджалася, што ў смаляной бочцы жыве чорт. Таксама расказвалі, што чорт назірае за перавозкаю бочак са смалою, бо смала, як лічылі, — уласнасць д'ябла. Гэтая аналогія зусім зразумелая: менавіта ў гарачай смале, як сцвярджала царква, варыліся ў пекле пад наглядам чарцей грэшнікі.

Аднак смаляная бочка ў беларускіх казках фігуруе не толькі ў сувязі з нячыстай сілай. Так, у адной казцы ("Дуб Дарахвей") царыцу з малым сынам змяшчаюць у смаляную бочку і кідаюць у мора. У другой казцы ("Залатое пяро") бочка смалы дапамагае злавіць жар-птушку. Але мы бачым, што ўсё роўна смаляная бочка — у адным выпадку для царыцы з дзіцем, у другім для жар-птушкі — робіцца каварнай пасткай, з'яўляецца рэччу, з якой звязаны нейкія непрыемнасці, беды. У народных жа песнях бочкі (ужо не смаляныя) проста сімвалізуюць наогул вялікую ёмістасць:

*У адной бочачцы саладок мядок,*
*У другой бочачцы зялёна віно,*
*У трэцяй бочачцы горкае піва.*

Такім чынам, як мы бачым, у мінулым посуд у жыцці нашых продкаў меў не толькі ўтылітарнае, але і глыбокае сімвалічнае значэнне. Удзельнічаў ён у пэўных традыцыйных абрадах, у варажбе, былі звязаны з ім розныя забабоны, вялікую ролю ён меў у сюжэтах фальклору. Наша светаўспрыманне сёння значна змянілася ў параўнанні з псіхалогіяй нашых продкаў, але калі б'ецца посуд, мы гаворым: "На шчасце!" "На шчасце" па традыцыі б'юць бакалы і ў час вяселля. Дарэчы, трэба сказаць, што яшчэ ў пачатку XX стагоддзя ў некаторых раёнах Беларусі існаваў звычай пры пахаванні класці ў магілу чарапкі бітага посуду. Гэта рэшткі старажытнай традыцыі ахвярнага біцця посуду, што ідзе з далёкай старажытнасці, з абраднасці беларусаў мінулых стагоддзяў і глыбей — ад старажытных славян-язычнікаў. І ў гэтым чуваць адгалоскі сівой мінуўшчыны ў нашым сённяшнім жыцці.

**Якаў ЛЕНСУ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**
**Малюнкі аўтара.**



Збан.



Кадзь.



Вядро.



Гаршчок.



Латка.



Бочка.

СТОП-КАДР





# МОЙ ГОРАД — МАЯ КРЭПАСЦЬ







*Фотарэпартаж Эдуарда КАБЯКА.*



**КУЛЬТУРА**
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА

Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3780.

Падпісана ў свет 30.09.97. у 9.00.
Замова 1376

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**